

НАР-КАМ-ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР

# ПЛУГ















1928
ЕНСК

ЖНІВЕНЬ

№ 8

# ЗЬМЕСТ.



1-ая друкарня БДВ. Заказ № 3047. У ліку 1.600 экз. Галоўлітбел № 1879.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ПЛУГ

Навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня Жнівень 1928 г. № 8

## Да асеньняй пасяўной кампаніі.

Надыходзячая асеньняя пасяўная кампанія гэтага году мае вялікае гаспадарчае і палітычнае значэньне.

Вынікі асеньняга засеву зьявяцца паказальнікам наколькі мы добра падрыхтаваны, каб правільна вырашыць задачы, якія ставяць перад намі зараз Партыя і Савецкая Ўлада.

У нас на Беларусі, як раней, гэтак і цяпер, уласнага хлеба дзеля пракармленьня ўсяго насельніцтва ад ураджаю да ўраджаю—не хапае. Хлеб заўсёды ў пэўнай колькасьці прывазілі ў Беларусь з іншых мясцовасьцяй Савецкага Саюзу. Гэтае становішча зьяўляецца ненармальным, яно мае свой адбітак на ўсіх гаспадарчых мерапрыемствах. Нараканьні на кепскую глебу і на кліматычныя ўмовы ў нашы часы не апраўдваюць нізкай ураджайнасьці нашых палёў і слабай вытворчасьці нашай сельскай гаспадаркі. Пры належных уважлівых адносінах да сельскай гаспадаркі ўраджайнасьць хлеба на Беларусі можна павялічыць у два-тры разы. Прыкладам гэтага можа быць Нямеччына. Там ёсьць мясцовасьці па якасьці глебы і па кліматычных умовах падобныя да нашых палёў. І вось там, дзякуючы культурнаму вядзеньню гаспадаркі, ураджайнасьць перавышае амаль у тры разы ўраджайнасьць нашай гаспадаркі.

Галоўнай прычынай слабой вытворчасьці збожжа ў нашай сельскай гаспадарцы зьяўляецца адсталы спосаб вядзеньня яе і параўнаўча недастатковы азімы клін.

Тыя труднасьці, якія на працягу апошняга часу мы мелі на хлебным рынку тлумачаць нам, што на асеньнюю пасяўную кампанію бягучага году мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Мы павінны ў гэту кампанію дабіцца: максымальнага павялічэньня агульнай пасяўной плошчы, замацаваньня і павялічэньня росту калгасаў, саўгасаў і розных прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў, палепшаньня якасьці пасяўнога матар'ялу ў сялянскіх гаспадарках.

Трэба накіраваць усю ўвагу на тое, каб перш за ўсё не засталося ніводнага кавалка азімых палёў не засеяным.

Шэраг практычных мерапрыемств павінны быць накіраваны да павялічэньня ўраджайнасьці азімых расьлін і наогул павышэньня ўраджайнасьці ўсіх пасяўных культур сельскае гаспадаркі.

Адным з мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню гэтай задачы зьяўляецца: палепшаньне сыстэмы вядзеньня сельскай гаспадаркі, лепшая апрацоўка глебы шляхам ужываньня сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, палепшаньня ўраджайнасьці глебы пры дапамозе штучных угнаеньняў і ўжываньня высокасортнага насеньня.

Тыя гаспадаркі, якія карыстаюцца яшчэ трохполкай, павінны ўсімі сіламі імкнуцца да пераходу на шматпольле, як да мэты пашырэньня пасяўной плошчы наогул.

Каб дапамагчы сялянству забясьпечыць свае гаспадаркі належнымі сельска-гаспадарчымі прыладамі, ў першую чаргу плугамі, паводле пастановы Ураду БССР, зьніжаны цэны на галоўнейшую прыладу сельскай гаспадаркі—плуг і вызначаны крэдыты ў суме 500.000 рублёў дзеля набыцьця сельска-гаспадарчых машын і прыладаў у расрочку. Зразумела, што гэта рассрочка павінна давацца ў першую чаргу бедняцка-серадняцкай частцы сялянства, галоўным чынам, каляктыўным аб'яднаньням гэтых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Народны Камісарыят Земляробства, дзеля задавальненьня патрэбы сялянства БССР у штучным угнаеньні пад час асеньняй сяўбы, уводзіць каля 500.000 пудоў гэтага ўгнаеньня. Дзеля забясьпечаньня насельніцтва насеньнем, утвораны спэцыяльны насенны фонд, значна пашырана сетка зернаачышчальных пунктаў. Са ўсёй уважлівасьцю адпаведнымі ўстановамі арганізуецца шырокае забясьпечаньне насеньнем незаможнага сялянскага насельніцтва і ў першую чаргу каляктыўных і бядняцкіх гаспадарак. Намечаюцца шырокія мерапрыемствы агранамічнай дапамогі сялянству ў часы пасяўной кампаніі.

Палепшаньню спосабу вядзеньня сельскай гаспадаркі і павялічэньню засеву павінна таксама дапамагчы кантрактацыя. Кантракты будуць заключацца пераважна з вытворчымі аб'яднаньнямі сельскіх гаспадарак. На падставе гэтых кантрактаў будуць выдавацца авансы пад засеў азімага кліну, прыблізна каля 8 рублёў на адну дзесяціну пасеву. Вось галоўнейшыя мерапрыемствы матар'яльнага і арганізацыйнага характару з боку дзяржавы ў пасеўкампаніі.

Аднэй з перашкодаў у пашырэньні вытворчасьці нашых сельскіх гаспадарак зьяўляецца іх раздробленнасьць. Гэтае становішча само сялянства пачынае ўсьвядомліваць як акалічнасьць, якая перашкаджае росту і палепшаньню вытворчасьці сельскае гаспадаркі.

Выхад з цяжкага становішча, якое ўтвараецца дзякуючы раздробленнасьці сельскіх гаспадарак, сялянства пачынае бачыць у калектывізацыі. На працягу часу ад 1-га кастрычніка 1927 году да чэрвеня 1928 году колькасьць каляктыўных гаспадарак павялічылася амаль удвайне. За гэты-ж час павялічылася на 50 процантаў колькасьць іншых сельска-гаспадарчых аб'яднаньяў: як машынныя, мэліярацыйныя, насенныя, малочныя і іншыя таварыствы. Такім чынам узмацненьне калектывізацыі сельскіх гаспадарак, што зьяўляецца аднэй з падстаў павялічэньня вытворчасьці сельскай гаспадаркі, ў апошнія часы значна пасунулася ўперад. Асеньняя кампанія павінна рашуча павялічыць тэмп калектывізацыі і каапэраваньня сельскае гаспадаркі нашай вёскі. Гэта галоўнейшая задача кампаніі для ўсёй савецкай грмадзкасьці.

Савецкая грамадзкасьць, сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні, а таксама ўсё працоўнае сялянства павінна ўжыць усе неабходныя ў нашых умовах магчымасьці, каб павялічыць і колькасна і якасна азімы клін і гэтым самым павялічыць ураджай наступнага году.

Трэба растлумачыць, каб усё сялянства зразумела ўсе выгады як агульна-грамадзкія, так і асабістыя, якія злучаны з асеньняй пасяўной кампаніяй і з гэтым зразуменьнем прыступіла да засеву азімых палёў.

Урад БССР ужывае ўсе захады і сродкі, каб дапамагчы працоўнаму сялянству, шляхам павялічэньня азімага кліну,—павялічыць вытворчасьць збожжа,—гэтага асноўнага прадукту ў сельскай гаспадарцы.

Аднак, дапамога з боку Ураду, ня гледзячы на ўсю сваю вялікую значнасьць, можа быць недастатковай для забясьпечаньня ўсіх запатрабаваньняў вёскі, і таму ў надыходзячай пасяўной кампаніі павінна прыняць самы шырокі ўдзел савецкая грамадзкасьць: выканкомы, камітэты ўзаемадапамогі, таварыствы сельска-гаспадарчага крэдыту, каапэрацыя і г. д.

Савецкія і грамадзкія арганізацыі павінны мабілізаваць дзеля асеньняй пасяўной кампаніі ўсе магчымыя мясцовыя сілы і сродкі. Зразумела, што посьпех кампаніі будзе залежаць ад сваечасова і правільна праведзенай арганізацыйнай працы і ад удзелу ўсёй савецкай грамадзкасьці ў справе засеву азімага кліну ў гэтым годзе.

А. Хацкевіч.

---

# Надыходзіць асеньняя сяўба.

Мерапрыемствы нашай Савецкай улады ў галіне сельскай гаспадаркі накіраваны на тое, каб найхутчэй дабіцца высокага ўраджаю. Дзеля гэтага і вясною перад пасевам ярыны і летам к пасеву азімых наша дзяржава праводзіць спэцыяльныя мерапрыемствы, якія могуць дапамагаць селяніну, калякгыву ці саўхозу найхутчэй падвоіць ураджай.

Ня будзем затрымоўвацца на ўсіх гэтых мерапрыемствах дзяржавы, а толькі пералічым. Сярод іх будуць: нарыхтоўка мінэральных угнаеньняў, устанаўленьне насеннага фонду сартовага насеньня, правядзеньне вучастковай агранаміяй ачысткі насеньня, увядзеньне шматпольля, пашырэньне паказальных вўчасткаў і спяцыяльных досьледаў, пашырэньне с-г. машын, прадастаўленьне крэдыту, дапамога бядняцкім гаспадаркам і г. д. Усё гэта ствярае пэўныя ўмовы для разгортваньня самадзейнасьці кожнага селяніна і кожнай гаспадаркі для атрыманьня большага і большага ўраджаю.

Пакуль што кожная наша гаспадарка—буйная саўхозская і калякгыўная ці дробная сялянская—можа ставіць сабе мэтаю толькі падвоіць ураджай. Такі ўраджай ня можа лічыцца байкаю ў нас і сапраўднаю заяваю для замежнай гаспадаркі. Ураджай у 100—165 пуд. на дзесяціну маюць ужо нашы дасьледчыя станцыі, некаторыя культурныя гаспадаркі і шмат сялян-дасьледчыкаў. Але гэты высокі ўраджай не зьявіўся сам сабою. Дасьледчыя станцыі і лепшыя гаспадаркі вывучалі доўгі час і зараз вывучаюць усе спосабы атрыманьня такіх ураджаяў. Цяпер ужо шмат што вядома кожнаму дасьледчыку, аграному і сьвядомаму селяніну. А трэба дабівацца таго, каб усё наша сялянства праз кнігу, журнал, газэту, школы ці агранома хутчэй навучылася выганяць высокі ўраджай. *Трэба, каб кожны селянін большменш ведаў тыя складаныя ўмовы, у якіх ён здабывае ураджай, а яшчэ карацей, трэба прыцягваць да працы над ураджаем і навуку і тэхніку.*

Ад навукі селянін павінен набыць сабе веды і ўменьне лепш гаспадарыць, а праз тэхніку навучыцца выкарыстоўваць у працы машыну. І праўда. Ці трэба яшчэ паўтараць, што для высокага ўраджаю неабходны добры выраб поля, багатае яго ўгнаеньне, чыстае і сартовае насеньне сваечасовы пасеў і далейшы догляд. Пад добрым вырабам поля трэба разумець цэлы шэраг прац над глебаю, якія павінны праводзіцца і сваечасова, і ўмела, і належнымі прыладамі.

Напрыклад, запозьненая вясна і лета гэтага году ніяк не павінны адцягваць падрыхтоўку поля пад азімыя. Кожнае ворыва ці баранаваньне трэба зрабіць у час.

Далей некалькі слоў аб угнаеньні поля. Для высокага ўраджаю ўгнаеньне глебы гноем і мінэральнымі парашкамі лічацца абавязковым. Ніводная гаспадарка ня можа задаволіцца толькі адным гноем з-пад жывёлы. Для высокага ўраджаю, якога дабіваемся зараз мы ў СССР, трэба найшырэй выкарыстоўваць лубін, торп і мінэральныя парашкі.

Высокія ўраджаі Заходняй Эўропы трымаюцца амаль выключна на мінэральных угнаеньнях. Напрыклад, калі Нямеччына ў час мінулай вайны прымушана была скараціць прымяненьне мінэральных угнаеньняў у сельскай гаспадарцы, дык ураджаі яе з 150 пуд. зьнізіліся на 75 пуд., гэта значыць да тых, якімі яны былі 35 год таму назад, пры абмежваным карыстаньні мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Цяпер у нас цэны на мінэральныя парашкі значна зьніжаны і ні водзін пуд угнаеньня не павінен зараз залежвацца на складах. Наша Дзяржава разгортвае цяпер сваю прамысловасьць па вырабу мінэральных угнаеньняў і ў бліжэйшыя гады іх выраб будзе павялічаны ў некалькі разоў, хаця і цяпер ён перавышае даваены час.

Перад пасевам трэба зьвярнуць увагу і на ачыстку насеньня ад сарнякоў. Таксама трэба памятаць, што ў гэтым годзе жыта асабліва засьмечана жытнімі ражкамі. Гэта—грыбная хвароба жыта. Калі гэтых ражкоў не адсартаваць, дык і на будучы год будзе высеяна зараза. А вядома наколькі шкодна ўжываць жытнія ражкі з мукою ў хлебе. Ня менш пільна трэба пратравіць насеньне азімай пшаніцы фармалінам ці сінім каменем, каб на ёй не разводзілася сажа.

Добра засеяць поле сартовым насеньнем. Яно павысіць ураджай 20—30 проц. Пасеў радковым сяўніком будзе лепшым, чым пасеў ручным спосабам.

Вось чаму тут гаспадарка аб'яднаная ў калектыў ці зьвязаная з машыным таварыствам будзе знаходзіцца ў лепшых умовах.

Сяляне! *Загадзя рыхтуйце поле пад азімыя. Угнойвайце поле чым больш. Карыстайцеся шырэй мінэральнымі ўгнаеньнямі. Сейце чыстым і сартовым насеньнем. Арганізуйце машынныя т-вы, калектыўныя гаспадаркі.*

*Змагайцеся за падвойны ўраджай!*

**Сьц. Тупяневіч.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Забясьпечанасьць машынамі да асеньняй пасяўной кампаніі.

Паляпшэньне сельскай гаспадаркі, павялічэньне ўраджаяў цесна зьвязана з ужываньнем складаных сельска-гаспадарчых машын і часта зьяўляецца непасрэдным вынікам апошняга. Мы павінны добра ведаць, што наша гаспадарка ня пойдзе ўперад, у сэнсе павялічэньня ўраджайнасьці, да таго часу, пакуль саха ня будзе заменена плугам, драўляная барана на жалезную, пакуль ня будуць ужывацца больш складаныя прылады і машыны апрацоўкі поля, а таксама пасеву, убіраньня абмалоту і інш. Аднак і да апошняга часу ў Беларусі ёсьць такія раёны, дзе апрацоўка поля вядзецца вельмі адсталымі спосабамі і дзе яшчэ драўляная саха пакуль што ня выцесьнена жалезным плугам, не гаворачы ўжо пра больш складаныя сельска-гаспадарчыя машыны, як сяўнікі, касілкі, малатарні і інш.

Часта ад сялян можна пачуць, што машыны ім не падыходзяць, бо яны, па-першае, не заўсёды добра працуюць, а па-другое-вельмі дарагія, чаму і нельга купіць такую машыну серадняку, альбо бедняку. Бязумоўна, сустракаліся выпадкі, калі машыны ўдаваліся кепскія, ня моцныя і г. д., але паколькі зараз вытворчасьць машын і прадажа іх знаходзіцца ў руках дзяржавы, то гэтае пытаньне адпадае.

Іншая справа ў тым, калі гаспадар сам выбярэ для сябе не адпаведную машыну. Бываюць такія выпадкі, калі, напрыклад, купляюць плуг дзеля мелкай, добра распрацаванай глебы, а працуюць ім па ўзьмёту канюшынішча. Вядома, што плуг тады будзе працаваць кепска. Тое-ж самае бывае і з радавым сяўніком—працуюць па кепскай ральлі, альбо касільку пускаюць па купістым лузе. Нярэдка машыну ня ўмеюць правільна пусьціць у работу.

І, нарэшце, апошняе думка, што ўжываньне машын даступна толькі багатаму сялянству і саўгасам—таксама не правільна. Не гаворачы аб плугох, баронах, веялках і інш. мелкіх і менш дарагіх машын, нават самае бяднейшае сялянства мае магчымасьць карыстацца больш складанымі і дарагімі машынамі. Нікому ні сакрэт, што і багаты селянін не заўсёды зможа сабраць сродкі для таго, каб купіць складаную машыну—малатарню, альбо сяўнік. Трэба прымаць пад увагу тое, што адна машына можа абслугоўваць некалькі гаспадарак. Для гэтага неабходна з'арганізавацца і аб'яднацца ў машыннае таварыства. Пасьля гэтага, закупіўшы неабходныя машыны іх можна скарыстоўваць ня толькі буйнымі гаспадаркамі, але і самымі бядняцкімі.

Тым больш гэта магчыма цяпер, што машыны, каапэрацыяй і цэнтраземскладам адпускаюцца сялянам у доўга-тэрміновы крэдыт, на выплат, ад 2-х да 5-ці гадоў, у залежнасьці ад каштоўнасьці і значэньня машыны. Патрэбна толькі ў гэтай справе ўмелая і належная з'арганізаванасьць саміх сялян.

Да асеньняга пасеву Цэнтраземсклад мае для прадажы сельскагаспадарчыя машыны найбольш добрай якасьці ў той колькасьці, якая забясьпечыць патрэбу насельніцтва.

Так, на пярыяд з 1-га чэрвеня да 1-га кастрычніка маецца падрыхтаваць наступную колькасьць найбольш сэзонных машын:

| | | | |
|---|---|---|---|
| плугоў . . . . | звыш 20.000 шт. | сячкарань . . . . . | 1.700 шт. |
| барон розных (жалезных і пружыноввак) . . | 2.000 „ | касілак . . . . . . | 65 „ |
| малатарняў . . . . . | 2.300 „ | жнеярак . . . . . . | 335 „ |
| веялак . . . . . . | 2.100 „ | сяўнікоў . . . . . | 120 „ |
| прывадоў (розных) . . | 2.200 „ | сарціровак і трыераў . | 300 „ |
| | | сэпаратараў . . . . | 300 „ |

Прадажа машын, як ужо ўпаміналася, вытвараецца ня толькі за аплату зараз-жа, але для бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак і ў крэдыт на розныя тэрміны, у залежнасьці ад каштоўнасьці машыны і магутнасьці гаспадаркі (для беднякоў на больш доўгі тэрмін).

Для большага ўяўленьня даводзіцца табліца, у якой паказваецца колькасьць крэдытаваных машын, у асобным разьмеркаваньні: бяднейшаму насельніцтву, калякывам, машынным і мэліорацыйным таварыствам а таксама і тэрмін уплаты за іх.

| НАЗВА МАШЫНЫ | Цана машыны. | У %% ад каштоўнасьці машын. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | За-датак | На 1 год | На 2 гады | На 3 гады | На 4 гады | На 5 год |
| Плугі . . . . . . | да 10 руб. | 10 | 40 | 50 | — | — | — |
| Бароны . . . . . . | ад 10 да 100 р. | 10 | 15 | 35 | 40 | — | — |
| Сячкарні . . . . . | „ | 10 | 10 | 20 | 20 | 20 | 20 |
| Сяўнікі . . . . . . | да 300 руб. | 10 | 10 | 20 | 20 | 20 | 20 |
| Веялкі, сарціроўкі і трыеры . . . . . | „ | 10 | 10 | 20 | 20 | 20 | 20 |
| Малатарні . . . . . | да 650 руб. | 10 | 15 | 15 | 20 | 20 | 20 |
| Церніцы для лёну . . | да 100 руб. | 10 | 10 | 20 | 20 | 20 | 20 |
| Жнеяркі і касілкі . . . | „ | 10 | 10 | 20 | 20 | 20 | 20 |

(Менск—Цэнтраземсклад). Аграном **М. Еўдакімаў.**

---

# Кантрактацыя азімых культур па БССР.

Кантрактацыя азімых мае сваёй мэтай, як падняцьце ўраджайнасьці, так і пашырэньне пасеваў пад азімымі культурамі. Згодна пастановы Саўнаркому ССР ад 21|VII г. г., па Беларусі павінна быць закантрактавана 25.000 гэктараў. Улічваючы параўнаўча невялікую пасеўную плошчу пад азімаю пшаніцай і спажывецкі яе характар, ў Беларусі застаецца, такім чынам, кантрактаваць толькі жыта. Кантрактацыя жыта на ўказанай плошчы праводзіцца у трох акругах з наівялікшай таварнай прадукцыяй; да іх належаць Менская, Бабруйская і частка Гомельскай акругі і, у менш інтэнсыўных, ільнавод-

ных. Заключэньне дагавороў пры кантрактацыі жыта праводзіцца не з асобнымі гаспадаркамі, як гэта рабілася пры кантрактацыі ярыны, а выключна з групамі пасеўшчыкаў, цэлымі зямельнымі вобчаствамі і вытворчымі аб'яднаньнямі, як машынныя, насеннаводныя таварыствы і інш. Кантрактацыі жыта, як і яравым культурам, прыдаецца вытворчы характар і таму правядзеньне агрыкультурных мерапрыемств, як сартаваньне і пратручваньне насеньня, палепшаная апрацоўка глебы і інш. неабходныя аграмерапрыемствы, ставяцца ў абавязак кожнаму пасеўшчыку, які закантрактаваў свой пасеў. У якасьці задатку пасеўшчык можа атрымаць насеньне, штучныя ўгнаеньні і сельска-гаспадарчыя машыны. Кіраўніцтва аграмерапрыемствамі узкладваецца на зямельныя органы. Разьмер авансаў устаноўлены неаднолькавы для розных сацыяльных груп, найвялікшыя льготы даюцца беднаце. Бядняцкія гаспадаркі і калгасы атрымліваюць на кожны закатрактованы гэктар 9 рублёў, а астатнія групы—7 руб. 50 к.

Здача зярня павінна быць праведзена пасеўшчыкамі восеньню 1929 г. і можа быць выпоўнена ў 2 тэрміны: не пазьней 30 верасьня—50 проц. і астатнія 50 проц. да 20 кастрычніка 1929 г. Пасеўшчык здае зерня па цэнах, якія будуць устаноўлены Наркамгандлем БССР у дзень здачы; пры чым, калі зерня будзе лепш ці горш прынятай нормы, то робіцца адпаведная надбаўка, альбо скідка. Пасеўшчык таксама атрымлівае надбаўку за тэрміновую і парціонную здачу зярна нараўне з калгасамі. Да кантракцыі пасеваў жыта дапускаюцца як пайшчыкі, так і няпайшчыкі с.-г. каапэрацыі; пры чым праца павінна праводзіцца ў такім напрамку, каб яна была зьвязана з павялічэньнем каапэраваньня. Уся праца па кантрактацыі павінна быць скончана к 20 жніўню 1928 г.

Інструктар-Аграном **І. Лявіт.**

---

## Іванаўскае жыта і Высокалітоўская пшаніца.

У 1924 годзе ў чэрвені м-цы мне давялося ехаць праз поле саўгасу Боркі—на Случчыне. Усё расло і цьвіло на ім надзвычайна добра, асабліва на жытнім полі. Удоўж дарогі жыта стаяла высокае і прамое, як сьцяна, а калосься віселі, як „бічы". У вадным каласку налічвалася да 75 зернят. Было відаць, што акрамя ўсіх іншых спрыяючых умоў для росту—і сорт жыта быў вельмі добры. Я тады-ж задаўся мэтаю дастаць хоць некалькі пудоў такога жыта і пасеяць у сябе. У жніўні м-цы я ўзяў 3 пуды свайго жыта і паехаў прасіць кіраўніка саўгасу, каб ён мне абмяняў на сваё жыта. Мой бацька крыху зазлаваўся: „І трэба выдумаць,—казаў ён,—блізкі сьвет Боркі—чым-жа кепскае наша жыта. Як я бачу, дык толькі дарма згоніш кабылу, а карысьці ніякай не атрымаеш". Не зважаючы на гэта, я ўсё-ж такі паехаў. Кіраўнік саўгасу даведаўшыся аб маёй зацікаўленасьці іхнім жытам і аб тым, што я за 20 вёрст прыехаў з 3 пудамі—абяцаў абмяняць і 30 пудоў, пры тэй умове, што ўсе яны будуць пасеяны, як мною, так і іншымі зацікаўленымі сялянамі. Сорт свайго жыта ён назваў „Іванаўскім". На другі-ж дзень мы утрох абмянялі ўсе 30 пуд. і пасеялі кожны па 10 пуд. Для параўнаньня я на такой-жа глебе і на аднолькавым загоне пасеяў і свайго пяткускага жыта. Сеяў я раскідным сяўнікам па 12 пуд. на дзесяціну; зямля ў мяне цяжкі—падзолісты су-

глінак. Ужо ўвосень можна было бачыць, што перавага будзе на іванаўскім жыце: яно больш пакусьцілася і мела значна большыя сакавітыя і шырокія лісьця. На другі год, калі жыта стала пасьпяваць, то Еўліцкія сяляне казалі адзін другому: „Ты бачыў барэцкае жыта. Гэта жыта, дык жыта. Трэба будзе і мне такога завесьці“. І сапраўды, жыта было надзвычайна добрае. Ад пасеву 10-ці пудоў я нажаў адзінаццаць коп., а калі стаў малаціць, дык кожная капа давала па 10 пуд., а то і болей, у той час, як пяткускага давала па 7$^{1}/_{2}$—8 пуд. Хлеб з іванаўскага жыта ўдаваўся белым, як пшанічная булка. У тым-жа годзе, у дзень ураджаю, я за экспанаты свайго іванаўскага жыта атрымаў ў прэмію асыпнік (акучнік).

З таго году я перайшоў на пасеў толькі іванаўскага жыта. У 1925 г. я сеяў яго па розных угнаеньнях: па гнаі 1800 п., фасфарыту—36 п. (разьлік на дзесяціну), па лубіну і занятаму бульбаю папару. Ураджай на гнаі быў лепшым за ўсе; за ім ідзе па фасфарыту, лубіну і самы горшы на бульбянішчы.

Спробных абамлотаў я не рабіў, але згодна запісу расходу жыта ўраджай ў мяне быў 145 пуд. з дзесяціны. У майго-ж брата ў тым-жа годзе дзесяціна дала 180 пуд.; праўда жыта было пасеяна па канюшынішчы 2-га году, угноенаму 24 пуд. 18 проц. тамасшлаку. У яго асабліва яскрава выдзелілася дзеяньне тамасаўкі па канюшынішчы. Расьсеяў ён 2 мяшкі па 100 кіл. на $^{1}/_{2}$ дзес., пры чым у яго не хапіла ўгнаеньня на кавалак у 75 крокаў даўжыні і 4-5 крокаў шырыні. У тую-ж восень на няўгноеным кавалку можна было бачыць пляму з адлегласьці $^{1}/_{2}$ вярсты. У наступную вясну жыта па тамасшлаку ішло як на дражджах, а дзе не хапала ўгнаеньня жыта было рэдкае, маленькае і каласы на палову меншыя.

У 1926 г. у мяне такім жытам было засеяна роўна 2100 кв. саж. Частка пасеву была на гнаі, частка па занятаму віка-аўсянаму папару з дабаўкай штучных угнаеньняў. З 2100 кв. саж., я, згодна запісу, намалаціў 117 пудоў. Трэба адзначыць, што мінулае лета не зьяўлялася ўраджайным, ды к таму-ж яшчэ ў чэрвені (13/VI) прайшла навальніца з градам, дзякуючы чаму камісія ўстанавіла 25 проц. зьбітага жыта.

За гэтыя гады на пасеў іванаўскім жытам перайшло $^{1}/_{3}$ Еўліцкіх хутаран і суседнія вёскі, Сярэднікі, Селішча, Чыжоўка і Малы Рожан, якія даставалі насеньне ў мяне. Сялян вельмі цікавіць тое, што з гэтага жыта атрымліваецца белы хлеб. К заганам іванаўскага жыта трэба аднесьці толькі тое, што яму ні ў якім разе ня трэба даваць перастойваць на караню, бо жыта падае і яго тады кепска ўбіраць.

У тым-жа саўгасе Боркі і ў тым-жа 1925 годзе мне абмянілі 3 пуд. „Высокалітоўскай“ пшаніцы, атрыманай імі з Гомельшчыны (саўгасу Леніна). Увосень я пасеяў яе па канюшынішчы 2-га году бяз гною, толькі на 300 кв. саж. даў 4 пуда фасфарыту і пад апошняе ворыва каля 160 пуд. гною.

Ураджай яе быў прыблізна 80 пуд. па няўгноенаму канюшынішчу і каля 140 пуд. па ўгноенаму фасфарытам і гноем. На апошняй дзялянцы была вельмі высокая салома, вялікі колас і буйнае зерня. У дзень ураджаю за гэтую пшаніцу я атрымаў прэмію: 3 рублі і бібліятэку 1-га разраду.

П. Я. Філіповіч.

(Слуцкі раён).

# Ачышчайце жыта ад жытніх ражкоў.

Кожны год на жыце, калі яно пачынае наліваццa, можна наглядаць у некаторых каласох жытнія ражкі. У халодныя-ж і сырыя гады жытніх ражкоў бывае больш.

Здарылася так, што і ў сёлетнім годзе вясна і першая палова лета былі сырымі і халоднымі, чаму і ўраджай жыта аказаўся даволі значна пашкоджаным жытнімі ражкамі. Так напрыклад, пад Менскам у некаторых пасевах 5-10 проц. каласоў жыта маюць жытнія ражкі. Гэта даволі высокі процант. Калі нават узяць меншы процант (пяць), дык і тады выходзіць што месцамі паражоным аказваецца кожны 20 колас. Калі-б усе гэтыя ражкі былі прыбраны з ураджаем, а ня высыпаліся часткаю ў полі, дык можна было-б чакаць, што ў муку папала-б да 0,5 проц. ражкоў па вазе. Між тым прынята лічыць, што ў зярне дамешка жытніх ражкоў не павінна правышаць 0,1 проц. Большая колькасьць можа быць шкоднай для здароўя чалавека, бо жытнія ражкі маюць у сябе атрутныя матэрыі (сфацэлінавая кіслата і інш.) і выклікаюць у людзей хваробу—„злую корчу“. Ад гэтай хваробы шмат выпадкаў кончылася сьмерцьцю ў 1889, 1904, 1909 г. г. галоўным чынам у паўночных губэрнях саюзу.



Жытнія ражкі на жыце 1928 г.

*Што-ж такое жытнія ражкі.* Жытнія ражкі зьяўляюцца грыбною хваробаю жыта. Разьвіцьцё і пашырэньне гэтай хваробы прыблізна праходзіць так: калі ў час прыборкі ўраджаю частка ражкоў высыпаецца з коласаў на зямлю ці высяваецца разам з насеньнем, якое было засьмечана, дык у зямлі ражкі перазімоўваюць. Вясною яны прарастаюць і даюць 10-30 чырвоных галовак на ножках. К часу красаваньня жыта ў гэтых галоўках высьпяваюць споры грыбка. Ветрам і кузуркамі яны пераносяцца на красуючае жыта, пападаюць на завязь і тут прарастаюць. Такое зерня і колас пасьля гэтага аказваецца заражонымі грыбнёю жытняга ражка. Праз 14 дзён у такім коласе вырастае жытні ражок. Аднак прырода ражка не здавальняецца такім спосабам пашырэньня.

Зараз-жа пасьля заражэньня ў коласе першай завязі, грыбня пачынае утвараць летнія зароднікі (канідзіі) разам з салодкаю расою, якая выступае на паверхню коласа. Сюды садзяцца мухі, вымазваюцца ў канідзіі грыбка і далей пераносяць заразу на другія каласы жыта.

Калі ў пачатку лета стаіць сырая і халодная пагода, дык красаваньне жыта зяцягваецца і грыбок большы час можа пашырацца, што і здарылася ў гэтым годзе.

*Як змагацца з грыбком.* Папершае, нельга дапускаць жытніх ражкоў у муку звыш 0,1 проц., г. з больш 1 гр. ражкоў на 10 кіло жыта, бо яны шкодны для здароўя. Асабліва шкодныя жытнія ражкі сьвежыя. Паляжаўшы некалькі м-цаў атрутнасьць іх слабее.

Падругое, нельга высяваць ражкі разам з жытам, бо гэтым мы заражаем будучы ўраджай.

Лепш адабраць ражкі ў полі да прыборкі жыта. Праца гэта можа аплаціць сябе, бо сабраныя ражкі можна прадаць у аптэку, дзе з іх здабываюць лякарства.

Сартоўка ня можа ачысьціць засьмечанае насеньне жыта, а спэцыяльных машын яшчэ няма. Некаторыя раяць апускаць жыта з рэшатам у ваду, дзе распушчана 4 кіло солі на 1 вядро вады. Тут жытнія ражкі будуць плаваць і іх зьбіраюць лыжкаю.

Таксама меншаму процанту паражоных расьлін дапамагае правільны севазварот, падбор такіх сартоў жыта, якія адначасова і хутка красуюць.

Галоўнае-ж будзем памятаць, што жытнія ражкі шкодны і іх трэба вылучаць з зерня перад памолам і пасевам.

С. Т.

---

## Віка касматая.

*Віка касматая* надзвычайна цікавая і каштоўная расьліна ў сельскай гаспадарцы. З надворнага выгляду дарослая расьліна касматай вікі падобна да звычайнае вікі (Vicia sativa), але быліна і лісткі значна драбней і далікатней. Акрамя гэтага, уся расьліна пакрыта вельмі дробнымі валаскамі, чаму і завецца касматай вікай, дзякуючы якім яна становіцца больш устойлівай у адносінах да няспрыяючых умоў разьвіцьця. Сьцябло гэтае вікі слабае і часта вылягае. Краскі яе фіялетавыя, сабраныя ў густыя кісткі. Стручкі хоць досыць і шырокія, затое кароткія і зьмяшчаюць у сабе 3-4 круглых чорных, велічынёю з канаплёвае зерня гарошынкі. Віка касматая можа высявацца як вясною, так і ўвосень на зіму, чаму яе яшчэ завуць і *зімавой вікай.*

Галоўная каштоўнасьць зімавой вікі зьяўляецца ў тым, што яна можа даваць самы раньні зялёны корм з вясны, калі яна высяваецца на зіму і, пры тым у дабавак, корм атрымоўваецца найлепшай якасьці. Так, напрыклад, досьледамі ўстаноўлена, што адзін пуд сена касматай вікі па пажыўнасьці адпавядае 1 пуд. 8 фун. сена канюшыны, альбо ў 1 пуд. 12 фун. сена звычайнай вікі, альбо ў 1 пуд. 14 фун. сена цімафейкі [1]).

У сярэднім жа лічыцца, што касматая віка ўтрымоўвае ў сабе самых каштоўных пажыўных элементаў больш як іншыя віды траў; так, напрыклад, бялку—14 проц., тады як віка яравая ўтрымоўвае толькі 10 проц., канюшына $5^{1}/_{2}$ проц., а цімафейка толкі 4 проц. З гэтых параўнаньняў відаць перавага ў сэнсе кармовага значэньня касматай вікі над іншымі расьлінамі. Каштоўнасьць гэтае расьліны яшчэ і ў тым, што яна ня вельмі вымагальна да глебы, добра ўдаецца, як на пескавых глебах, так і на сярэдніх суглінках. Значна хутчэй яна расьце на гліністай глебе.

---

[1]) Расьліны прааналізаваны ў аднолькавай стадыі разьвіцьця—красаваньня.

Найбольш выгадна ў гаспадарцы сеяць касматую віку ў тым палетку, які на другое лета пойдзе ў папар. Падрыхтоўка глебы для засеву вельмі простая. Як толькі будзе зьняты ўраджай ярыны, зараз-жа поле ўзорваецца, барануецца ў 3-4 сьляды і ў канцы жніўня робяць пасеў (пажадана радавым сяўнікам). З прычыны таго, што сьцябло яе касматай вікі слабае і патрабуе падпоркі ў час разьвіцьця, дык карысна сеяць супольна з жытам. Жыта мае досыць моцную быліну, з вясны таксама добра разьвіваецца і дае самы раньні веснавы корм [1]. Пры супольным пасеве жыта з зімовай вікай радавым сяўнікам трэба высяваць і паасобку—перш высеяць віку, праз радок, выключыў сошкі сяўніка, а потым ужо высяваць жыта, паміж радкоў вікі. Норму высеву можна раіць такую: пры радавым засеве 3 пуд. жыта і 5 пуд. вікі на дзесяціну, а пры раскіданым засеве 4 пуд. жыта і 6 пуд. вікі. На насеньне засеў робіцца ня густа. Усходы віка дае на 10-12 тыдзень. Догляду за зімовай вікай увасеньні пярыяд ніякога не патрэбна, але ўвесну пажадана праскародзіць не баючыся папсаваць некалькі расьлін вікі. Пасьля гэтага яна хутка ідзе ўрост і пры спрыяючай вясьне ў пачатку мая можна ўжо мець добры зялёны корм у гаспадарцы. У час выплываньня жыта віка пачынае красаваць і ў гэтым стане яна лічыцца найлепшай для скарыстаньня. Пасьля скосу вікі (аржанай мяшанкі) поле ідзе пад жыта і, як паказваюць досьледы многіх дасьледчых установ нашага Саюзу, можна атрымоўваць такія самыя ўраджаі жыта, як і на раньнім чыстым папары.

Рана і высока скошаная аржана-вікавая мяшаніна хутка атрымае і можа пад час, даваць і другі ўкос. Калі пажадана атрымаць ад вікі зімавой насеньне, дык яе трэба ўбіраць тады, калі ніжнія стручкі стануць буравaтыя не чакаючы пакуль яны стануць разлузвацца і зерняты пачнуць высыпацца на зямлю. Пры супольным засеве касматае вікі з жытам на насеньне, апошняе вельмі лёгка можа быць выдзелена, прапушчаючы такую мяшанку на сартоўцы т. зв. „змейка“, альбо на кукале-адборніку Мейера. Насеньне касматая віка дае каля 70 пуд. з дзес., ня лічачы жыта.

Касматую віку можна зьмяшчаць ня толькі ў занятым папары, але яе можна сеяць і ў яравым палетку. На Палтаўшчыне ў тое-ж лета пасьля скосу касматай вікі ў яравым кліну, садзяць буракі расадай, сеюць грэчку, кукурузу і інш.

Выпадкі няўдач з пасевам касматае вікі часьцей за ўсё тлумачацца тым, што бывае цяжка напасьці на добрае насеньне. Калі яе прыходзіцца купляць на рынку, то гандляры ўхітраюцца даваць замест касматае вікі іншыя яравыя віды. Радзей бываюць няпрыемнасьці ад зімовых халадоў. У літаратуры ёсьць нават весткі, што касматая віка можа вытрымоўваць, бяз асобнай шкоды, не пакрытая сьнегам да—20° С. (20 градусаў марозу па градусьніку Цэльсія).

Разьвіцьцю вікі на Беларусі вельмі спрыяюць натуральна-гістарычныя ўмовы. Як па глебах, так і па клімату ёй прадстаўляецца поўная мажлівасьць стаць поруч з другімі кармовымі травамі ў нашых гаспадарках.

Адзначанае вышэй сьцьверджаецца і досьледамі Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі. Вось адзін з вынікаў ураджаю 1926 г. сухой

---

[1] Горацкая навучальная фэрма с.-г. акадэміі, нават сее адно жыта на зялёны корм ужо на працягу некалькіх гадоў і вельмі задаволена вынікам.

расьліннай масы розных мяшанак, засеяных у яравым палетку трохпалёвага севазвароту [1]):

| Чарг. №№ | НАЗВА МЯШАНАК | Ураджай сухой масы ў цэнтнэрах на гэкт.[2]) | УВАГА |
|---|---|---|---|
| 1 | Жытна-касматавікавя мяшанка . . | 42.6 | Жытня-вікавая мяшанка засеяна з восені. |
| 2 | Сэрадэля чысты засеў . . . | 34,5 | |
| 3 | Ячменна-сэрадэлявая мяшанка . . | 26,8 | |
| 4 | Аўсяна-гарохавая „ . . | 24,1 | |
| 5 | Аўсяна-віка-ячменна-гарохав. мяшанка. | 22,9 | |
| 6 | Аўсяна-вікавая мяшанка . . . | 22,6 | |
| 7 | Аўсяна-віка-грэчка-гарчышная „ | 19,9 | |

Як відаць з гэтае таблічкі, з усіх кармовых мяшанак найбольшы ўраджай дала зімовая жытна-вікавая мяшанка (42.6 цэнтн.). Усе-ж іншыя яравыя мяшанкі займаюць месцы па нісхадзячай ступені і даходзяць да 19.9 цэнтнэра (аўсяна-віка-грэчка-гарчышная).

Дадзеныя ў вучоту жыта ў 1923 г. на той-жа Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі, па розных занятых папарах, далі наступны малюнак у пуд. на дзесяціну [3]):

| №№ па чарзе | ВІДЫ ПАПАРАЎ | На дзесяц. у пуд. Зярнят | На дзесяц. у пуд. Саломы | УСЯГО | У %% па агульнай масе | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Папар чысты раньні . . . | 134 | 286 | 420 | 100 | |
| 2 | „ аржана-вікавы . . . | 103 | 236 | 339 | 81 | Без угнаеньня. |
| 3 | „ аўсяна-вікавы . . . . | 109 | 230 | 336 | 80 | |
| 4 | „ ячна-вікавы . . . . | 99 | 201 | 300 | 71 | |
| 5 | „ позьні сялянскі . . . | 62 | 127 | 189 | 45 | |

Аналізуючы прыведзенную таблічку адзначаем, што з усіх відаў занятых папараў аржана-вікавы папар займае першае месца і толькі раньні чысты папар даў большы ўраджай, як зерня, так і саломы.

На заканчэньне прыходзіцца выказаць пажаданьне, каб гэта каштоўная расьліна, касматая віка, знайшла ў нашых гаспадарках належ-

[1]) Працы Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі за 1924-26 г. Т.П., стар. 78.

[2]) Цэнтнэр=3.101 пуда.

[3]) Труды Горецкой с.-х. опытной станции за 1921-23 г. г.

нае ёй мейсца сярод іншых кармовых расьлін. Хто пажадае завесьці такую віку, той павінен паклапаціцца аб набыцьці добрага насеньня праз сельска-гаспадарчыя склады, альбо праз каапэрацыю, але ня купляць на рынку. Для першага разу можна зрабіць пасеў на невялічкім кавалачку зямлі, падрыхтаваўшы яе належным чынам (Пасеў рабіць пасьля зьняцьця яравога, у канцы жніўня). Канчаткова гэтая расьліна можа быць замацавана ў гаспадарцы з той пары, калі гаспадарка сама пачне здабываць насеньне [1]).

А. Савельляў.

(Горкі, С.-г. Акадэмія).

---

# Вынікі пасеву сэлекцыйным насеньнем.

*(З досьледу на аграңамічным вучастку Глускага р-ну).*

**Трэба сялянству прыняцца за адбор мясцовага гатунку насеньня збожжа, памятаючы, што добрае насеньне дасьць добры ўраджай.**

У 1927 г. аграпункт Глускага раёну атрымаў ад Ленінградзкага Інстытуту і ад Турскай дасьледчай станцыі гатунковага насеньня аўса і ячменю. Гэтым насеньнем былі засеяны дасьледчыя вучасткі ў саўгасе і на Ленінскай дзесяціне з мэтаю выяўленьня карыснасьці розных сартоў ва ўмовах Глускага раёну. На вучасткі была адведзена зусім аднолькавая глеба аднолькавым угнаеньнем. Велічыня кожнай дзялянкі была па 55 кв. саж.

З вучасткаў, засеяных аўсом, атрыманы наступныя ўраджаі:

| № № дзял. | Дзе закладзена | Назва сорту аўса | Ураджай з дзял. | | | | Ураджай у пераліку на дзес | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Зярна | | Саломы | | Зярна | Саломы | |
| | | | п. | ф. | п. | ф. | у пудах | у пудах | |
| 1 | У саўгасе Веснаво | „Пабеда“ . . . | 2 | 10 | 2 | 17 | 98,5 | 107 | |
| 2 | | „Эха“ . . . . | 2 | 29 | 2 | 32 | 119,8 | 122,4 | |
| 3 | | Мясцовы ачышчаны . . . | 2 | 17 | 2 | 17 | 106,5 | 106,5 | |
| 1 | На Ленінскай дзес., в. Гарадок. | „Пяткускі“ . . | 1 | 29 | 2 | 1 | 69 | 96 | Вучасткі на Ленінскай дзесяціне былі па 60 кв. саж. |
| 2 | | „Залаты дождж“. | 1 | 23 | 2 | 2 | 65 | 82 | |
| 3 | | „Пабеда“ . . . | 1 | 18 | 1 | 30 | 58 | 70 | |
| 4 | | „Эха“ . . . . | 1 | 30 | 2 | 10 | 72 | 90 | |
| 5 | | Мясцовы ачышчаны . . . | 1 | 38 | 2 | 3 | 78 | 112 | |

З гэтай табліцы мы бачым, што на дасьледчых вучастках у саўгасе Веснаво авёс „Эха“ даў на дзесяціну большы ўраджай, чым мясцовы

---

[1]) Аб касматай віке ёсьць артыкул М. Уліціна час. „Плуг“ № 8, 1925 г. стар. 3. „Зімавая віка“.

на 13 з лішнім пуд. зерня і саломы на 15,9 пуд. Авёс-жа „Пабеда“ даў меншы ўраджай, чым мясцовы на 8 пуд. зерня і паўпуда саломы.

На Ленінскай дзясяціне в. Гарадок найлепшыя вынікі атрыманы з мясцовага ачышчанага насеньня і добрыя ўраджаі з насеньня аўса „Эха“ і „Пабеда“. Адсюль мы можам зрабіць вынік, што вельмі карысна распаўсюджваць сэлекцыйнае насеньне (адборнае), але магчыма атрымаць добры ўраджай і ад нашага мясцовага адсартаванага насеньня.

Вынікі пасеву сэлекцыйнага ячменю выявіліся ў наступным:

| № № дзял. | Месца вопыта | Назва сорту ячменю | Ураджай з дзял. | | | | Ураджай у пер. на дзесяцу | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Зярна | | Саломы | | Зярна | Саломы | |
| | | | п. | ф. | п. | ф. | у пудах | у пудах | |
| 1 | Саўгас Веснаво. | Залаты . . . | 2 | 27 | 2 | 29 | 117 | 119,5 | |
| 2 | | Лебядзін. шыя (чэхаславацкі) | 3 | — | 3 | 01 | 125,3 | 126,4 | |
| 3 | | Мясцовы ачышчаны . . . | 2 | 17 | 2 | 20 | 103,9 | 107,5 | |
| 1 | Ленінская дзес. в. Гарадок. | Залаты . . . | 3 | 32 | 3 | 28 | 152 | 148 | |
| 2 | | Мясцовы шасьцірадны . . . | 3 | 02 | 3 | 31 | 121 | 151 | Вучасткі на Ленінскай дзесяц. былі па 60 к. с. |

У саўгасе Веснаво лепшым па ўраджаю зьявіўся „Лебядзіная шыя“. Ён даў на 21 пуд. 16 ф. зярна і 19 пуд. 36 ф. саломы болей чым мясцовы ячмень. „Залаты“ даў на 13 пуд. 4 ф. зярна і 12 пуд. саломы больш чым ячмень мясцовы. З досьледу на Ленінскай дзесяціне мы бачым, што адборнае зярно таксама дае добрыя вынікі. Нашы саўгасы ўжо стала ўзяліся за справу адбору насеньня. Сялянству таксама трэба ўзяцца за адбор насеньня, арганізуючы для гэтага насенныя т-вы. Толькі, як паказала практыка, насенныя т-вы павінны быць не раённыя, а павінны быць з'арганізованы ў 1—2 пасёлках, альбо ў аднэй вёсцы. Гэтым мерапрыемствам магчыма павялічыць ураджай.

Аграном **Шульман.**

(М-ка Глуск).




## Досьлед з азімай пшаніцай.

У 1926 г. мною быў зроблены досьлед з азімай пшаніцай на тэму: „Уплыў сартаваньня насеньня і апрацоўкі глебы на ўраджай азімай пшаніцы" (гл. „Плуг" за 1926 г. № 10, стар. 15). Вынікі былі вельмі добрыя. Першы сорт даў з дзес. 128 пуд. зерня. У мінулым 1927 годзе я правяраў гэты досьлед, таму што мне самому няверылася, каб сартаваньне магло так значна павысіць ураджай. Уся падрыхтоўка досьледу была такая, як і ў 1926 г. Папар быў узораны з восені, увесну поле баранавалася, у чэрвені вывез па разьліку на дзес. 1200 пуд. гною, зааpaў параконным плугом; праз тыдзень поле пабаранаваў, а ў першай палове жніўня поле перааpaў над пасеў пшаніцы. Падрыхтаваны гэтак вучастак разьбіў на тры дзялянкі, плошчай 60 кв. саж. кожная (6×10).

У гэтым годзе я пасеў рабіў трыма сартамі азімай пшаніцы і радавым пасевам.

На першай дзялянцы я пасеяў першы сорт (буйны), на другой—другі сорт (сярэдні) і на трэцяй—трэці сорт (самы дробны). Усходы былі добрыя на першых дзьвёх дзялянках, а на трэцяй былі дробныя, пазьнейшыя і радзейшыя.

Што-ж паказала мне пшаніца ў росьце ў 1927 годзе. На першай дзялянцы была пшаніца як сьцяна. Буйны колас, аж люба глядзець, густая, што і мыш не пралезе.

Другая дзялянка мала чым адстала ад першай, а трэцяя была зусім рэдкая і з маленькімі каласкамі. Яскрава адрозьніваліся дзялянкі па росту; другая толькі трошкі, а трэцяя значна больш супраць першых, яна была як бы падстрыжана нейкай цудоўнай машынкай.

Гэты досьлед даказаў мне, што сартаваньне пшаніцы мае вялікі ўплыў на ўраджай, што відаць з наступных лічбаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1-я дзялянка мне дала ўраджаю | 2 п. 10 фун., | або | 135 пуд на дзес. |
| 2-я „ „ „ „ | 1 п. 37 „ | „ | 115 „ „ „ |
| 3-я „ „ „ „ | — 36 фун., | „ | 54 „ „ „ |

(Вучотная плошча дзялянак 40 кв. саж).

Такім чынам мы бачым, што першы сорт пшаніцы дае з дзесяціны на 81 пуд больш, чым трэці сорт. Гэта гаворыць за тое, што трэба сеяць толькі буйным сартовым насеньнем і ўраджай будзе павялічвацца.

Мой гэты досьлед даў яшчэ лепшы вынік, чым у 1926 годзе і гэта па мойму за тым, што ў 1927 г, я зрабіў пасеў радавым сяўнiком.

На 1928 г. я засеяў сартаваным насеньнем 1-га сорту азімай пшаніцай цэлую дзесяціну. Апрацоўку глебы зрабіў як і раней. Пасьля атрыманьня ўраджаю, напішу ў часопіс „Плуг". Апошняе падагуліць вынікі майго пяцігадовага досьледу з азімай пшаніцай.

Сел.-дасьледчык **М. Пятроўскі.**

(Заказінец, Варатоўск. с-с., Меншычна).

# Досьлед з сартовым і мясцовым жытам па штучнаму ўгнаеньню.

У 1926 годзе кармянскім агравучасткам на пасёлку „Ільліч“ у сялян Купрэева і Кільчэўскага быў заложаны досьлед з іванаўскім, пяткускім і мясцовым жытам па штучнаму ўгнаеньню да ўраджаю 1927 г.

На жаль, я ня ведаю як апрацоўвалася глеба, бо гэтыя матар‘ялы я здабыў з дыяграм, вывешаных на 3-й Кармянскай раённай выстаўцы, якая адбылася 6-га лістапада 1927 г. ў м. Карме. Тэрмін пасеву таксама не вядомы, глеба—сярэдняя супясь, падлічаны ўраджай паказваю ў ніжэй далучанай табліцы:

| №№ вучасткаў | Сорт жыта | №№ дзялянак | Разьмер дзялянак | Якое ўгнаеньне і колькі яго ўнесена | Ураджай зярна ў пуд. на дзесяціну | | Ураджай саломы ў пуд. на дзесяціну | | Ураджай паловы ў пуд. на дзесяціну | | Прыбаўка зярна супроць няўгноен. | | Прыбаўка саломы і паловы супроць няўгноен. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | пуд. | фун. | пуд. | фун | пуд. | фун. | пуд. | фун. | пуд. | фун. |
| 1 | Іванаўскае | 1. | 60 к. с. кожная | Кантроль . . . . . | 36 | — | 58 | — | 7 | — | — | — | — | — |
| | | 2. | | 45 п. касьц. мукі . . | 48 | — | 91 | 20 | 12 | — | 12 | — | 38 | 20 |
| | | 3. | | 50 „ „ . . . | 60 | — | 96 | — | 14 | — | 24 | — | 45 | — |
| | | 4. | | 45 п. касьц. мукі +7 п. кал. солі . . . . | 76 | — | 122 | — | 17 | — | 40 | — | 74 | — |
| 2 | Пяткускае | 1. | 60 к. с. кожная | Кантроль . . . . . | 34 | 20 | 54 | — | 6 | — | — | — | — | — |
| | | 2. | | 45 п. касьц. мукі . . | 57 | 20 | 87 | 10 | 10 | — | 23 | — | 37 | 10 |
| | | 3. | | 50 „ „ „ . . . | 60 | 10 | 92 | — | 11 | 20 | 25 | 30 | 43 | 20 |
| | | 4. | | 45 п. касьц. мукі +7 п. кал. солі . . . . | 85 | 20 | 127 | 10 | 15 | — | 51 | — | 82 | 10 |
| 3 | Мясцов. прост. | 1. | 60 к. с. кожная | Кантроль . . . . . | 27 | 20 | 38 | — | 5 | — | — | — | — | — |
| | | 2. | | 8 п. кал. солі . . . | 36 | 20 | 58 | — | 8 | — | 9 | — | 23 | — |
| | | 3. | | 12 „ „ „ . . . . | 44 | — | 70 | — | 9 | 20 | 16 | 20 | 36 | 20 |
| | | 4. | | 12 п. кал, солі +50 п. касьцян. мукі. . . | 61 | — | 98 | — | 12 | 20 | 33 | 20 | 67 | 20 |

У дадатак да гэтага я прывяду разрахунак наконт выгаднасьці прымяненьня штучнага ўгнаеньня на азначанай глебе, каб больш яскрава было відаць чытачу, якое ўгнаеньне лепш прымяняць на сярэднім супяску.

Напрыклад, мы возьмем на штучнае ўгнаеньне такую цану: 1 п. касьцяной мукі і калійнай солі ў адзін руб., а зярно жыта 1 р. 50 к. пуд., салома і палова 30 кап пуд.

| №№ участкаў | №№ дзялянак | Сорт жыта | Кошт угнаен. | | Кошт прыбаўкі | | Чысты прыбытак | | Убытак | | Колькасьць прыбаўкі зярна | | Колькасьць прыбаўкі саломы і паловы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | руб. | кап. | руб. | кап. | руб. | кап. | руб. | кап. | пуд. | фун. | пуд. | фун. |
| 1 | 2 | Іванаўскае | 45 | — | 29 | 55 | — | — | 15 | 45 | 12 | — | 38 | 20 |
| | 3 | | 50 | — | 49 | 50 | — | — | -- | 50 | 24 | — | 45 | — |
| | 4 | | 52 | — | 82 | 20 | 30 | 20 | — | — | 40 | — | 74 | — |
| 2 | 2 | Пяткоўскае | 45 | — | 45 | 67 | — | 67 | — | — | 23 | — | 37 | 10 |
| | 3 | | 50 | — | 51 | 67 | 1 | 67 | — | — | 25 | 30 | 43 | 20 |
| | 4 | | 52 | — | 101 | 17 | 49 | 17 | — | — | 51 | — | 82 | 10 |
| 3 | 2 | Мясцовае простае | 8 | — | 20 | 40 | 12 | 40 | — | — | 9 | — | 23 | — |
| | 3 | | 12 | — | 35 | 70 | 23 | 70 | — | — | 16 | 20 | 36 | 20 |
| | 4 | | 62 | — | 70 | 50 | 8 | 50 | — | — | 33 | 20 | 67 | 20 |

З табліцы відаць, што найбольшы прыбытак дала дзялянка № 4 першага вучастку, дзялянка № 4 другога вучастку і дзялянка № 3 трэцяга вучастку. Здавальняючы ўраджай з дзялянкі № 2 трэцяга вучастку. Вызначаныя страты на 2 і 3 дзялянцы першага вучастку трэба лічыць прычынай таго, што ў глебе значна нехапае калія, а мо' і азоту, таму адна касьцяная мука і не павысіла ўраджай. З усяго гэтага досьледу вельмі яскрава відаць, што дасьледчыя вучасткі надта бедныя каліем, фосфару-ж таксама адчуваецца недахоп.

Сел. **Янка Судак.**

# Сей жыта і пшаніцу гатунковым насеньнем.

Сяляне нашай і ваколічных вёсак найбольш сеюць простым даўнейшым насеньнем, ураджай ад яго надта малы: капа жыта дае 3 п. зерня і ад сілы $3^{1}/_{2}$. А ёсьць насеньне, якое дае 5-6 пуд. зярнят з капы да і саломы значна больш, чым простае. Частка гаспадароў ужо ўпэўніліся ў карысьці ад гатунковага насеньня і разводзяць яго, але пакуль што мала. Перашкодай да хутшэйшага распаўсюджваньня гатунковага насеньня зьяўляюцца існуючыя ў некаторых вёсках забабоны. Яшчэ ў многіх сялян ёсьць дрэнны такі звычай, калі сам разьвядзе новае добрае насеньне, дык свайму суседу, які просіць, каб ён даў гатунковага за грошы ці ў абмен на сваё простае, адмаўляецца, не дае.

„О, дзе-ж ты бачыў“—разважае сабе такі гаспадар, „дай яму насеньне, а ён як зробіць нешта, ну, дык усё роўна, што сякерай адсячэ, у самаго будзе радзіць, а ў мяне зьнішчыцца“. На такія бесталковыя забабоны трэба адно сказаць, што калі-б усе так рабілі, дык ніхто ніколі-б новага жыта не завёў, бо недзе было-б яго ўзяць. А на дасьледчых станцыях і зусім-бы жыта не радзіла, бо яны-ж сотням гаспадарак даюць сваё насеньне. Мы павінны дапамагаць адзін другому, каб у ва ўсёй вёсцы было гатунковае насеньне і каб у кожнага гаспадара ўзмацнялася праз гэта гаспадарка.

Заклікаю кожнага гаспадара мяркавацца з сваім суседам і іншымі сялянамі, не шкадаваць, а раіць і калі ёсьць, дык даць яму разьвесьці новага культурнага насеньня.

Селянін. **Захар Бірыла.**

(Роўнапольле,
Сьмілавіцкага р.)

---

# Мае досьледы з жытам.

Дзеля таго каб праверыць, якія ўгнаеньні і які ўплыў на ўраджай робяць на нашых палёх, я правёў у мінулым годзе досьлед з рознымі ўгнаеньнямі пад жыта.

Вынікі гэтага досьледу наступныя:

| №№ чаргов. | НАЗВА ЎГНАЕНЬНЯ | УРАДЖАЙ: З гэктара ў цэнтн. | | УРАДЖАЙ: З дзесяціны ў пудох | | Прыбаўка ў процантах зярна |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Зярна | Саломы | Зярна | Саломы | |
| 1 | Без угнаеньня . . . . . | 8,1 | 11,0 | 27 | 48 | — |
| 2 | 33 пуды попелу на дзесяціну . | 11,7 | 22,0 | 40 | 76 | 32 |
| 3 | 30 пудоў попелу і 10 пуд. касьцяной мукі . . . . . . | 14,4 | 34,8 | 49 | 120 | 81 |
| 4 | 18 пудоў касьцяной мукі . . | 19,4 | 31,6 | 67 | 109 | 147 |
| 5 | 24 „ „ „ . . | 20,1 | 28,4 | 69,5 | 98 | 148 |
| 6 | 1200 пуд. гною і 15 пуд. касьцяной мукі . . . . . . | 38,3 | 64,1 | 132,5 | 221 | 390 |
| 7 | 1200 пуд. гною і 12 пуд. касьцяной мукі . . . . . . | 25,4 | 46,1 | 87,5 | 159 | 222 |
| 8 | 1200 пуд. гною + 16 пуд. суперф. + 24 пуд. попелу . . | 50,0 | 87,0 | 172,5 | 300 | 537 |
| 9 | Начнога золата 120 вазоў . . | 32,5 | 64,4 | 112 | 222 | 315 |

Глеба, на якой ставіўся досьлед, пясчаная.

Перад жытам быў пасеяны лён. Узворваньне і скарацьба рабіліся два разы. Сяўба радавым сяўнікам. Жыта пасеяна 3-га верасьня, а прыбрана 6-га жніўня. Вясной жыта баранавалася ў два сьляды—

крыж-на-крыж. Дзялянкі 3, 4, 5, 6 былі з паўторнасьцю—у табліцы паказаны сярэднія лічбы дзьвюх аднаімённых дзялянак. Велічыня дзялянак 27 кв. саж. Вучот зроблены па абмалоту ўсёй дзялянкі.

Пры разгляданьні лічбовага матар'ялу бачым, што мінэральныя ўгнаеньні вельмі моцна падвышаюць ураджай, і асабліва з гноем разам, і самай найлепшай камбінацыяй зьяўляецца гной, супэрфасфат і попел. Вельмі добрыя вынікі дае начное золата, якое можа быць шырока выкарыстана ў прыгародных мясцовасьцях. На гэта трэба зьвярнуць увагу (не дарам-жа замежамі існуе пагаворка: „Якавы ватэрклазеты ў дзяржаве, такава і яго культура").

Попел таксама дае добрыя вынікі—яго трэба хаваць і выкарыстоўваць як угнаеньне, асабліва на паплавох.

Селянін-дасьледчык **Г. Шасьцітка.**

# Сейце жыта ў жніўні.

*(З уласнае практыкі).*

Шматгадовая практыка сяўбы жыта ў жніўні месяцы паказала, што гэтым на першы погляд нязначным мерапрыемствам можна значна павялічыць ураджай на сваім полі. Жнівень месяц—самы лепшы час раньняй сяўбы. Пажадана пры гэтым, каб поле было падрыхтована загадзя, каб папар быў узораны ў маі месяцы. Сяляне-ж часта паднімаюць папар у канцы ліпеня, а потым, у канцы жніўня і пачатку верасьня пачынаюць сяўбу. На такой глебе, зусім не падрыхтаванай для росту расьліны, вынікі бываюць надта дрэнныя.

Каб упэўніцца ў карысьці раньняй сяўбы, я частку жыта сею ў жніўні, а потым, праз месяц, тут-жа поруч, на аднолькавай глебе сею позьняе жыта. Рост іх ужо ўвосень адрозьніваецца тым, што рунь, пасеянага ў жніўні жыта, вырастае значна большая. Па вясьне рост пачынаецца адначасова, але пасеяная раней хутка папярэджвае ростам. Каб зрабіць адпаведныя вынікі, я браў кавалкі па 12 квадратовых саж. аднаго жыта і другога, зжынаў асобна і абмалочваў. Аказалася, што раньняе жыта дало на 5 фунт. болей, чым позьняе з гэтых 12 кв. саж. Пры пераліку на дзесяціну гэта будзе 25 пуд. Як відаць, ёсьць сэнс належным чынам апрацоўваць глебу пад жыта і сеяць яго раней.

Селянін **Я. М. Савіцкі.**

(в. Шмакі, Чачэвіцкага р., Магілеўшчына).

# У каляктыве лепш вясьці досьледы.

Частка сялян, якія вядуць дасьледчую працу—беднякі. Праз досьледы яны шукаюць спосабаў палепшыць сваю гаспадарку. Але пакуль вёска не земляўпарадкавана, пакуль пануюць вузкія шнуры, дык некаторым дасьледчыкам вельмі кепска весьці досьледы.

Часта ўмовы вучасткаў, на якіх закладаюцца досьледы, не адпавядаюць свайму прызначэньню. Галоўныя недахопы—гэта хваляватасьць вучастку, неаднолькавасьць глебы шнура: па сярэдзіне на складу высока, а па краёх, каля межаў гліна, пясок. Такія зьявішчы сустракаюцца амаль на кожнай паласе; пры такіх умовах, зразумела, досьлед ня можа быць правільным. А таму, каб больш дасканала весьці дось-

леды трэба арганізоўваць каляктывы. Сустракаецца і так, што Аграпункты большаю часткаю закладаюць дасьледчыя вучасткі ў багацейшых сялян. Гэта я лічу неправільным, трэба каб паказальнымі былі бядняцкія гаспадаркі.

Выявіць праз досьледы спосабы апрацоўкі глебы, ужываньне штучных угнаеньняў і г. д., а потым усё гэта ўжываць у гаспадарцы, хутчэй за ўсё можна толькі ў каляктывах. Вось, я ўжо на гэты шлях стаў, падышоўшы да пытаньня чыста практычна. Сабраў я навокал сябе вясковую актыўную беднату і разам арганізавалі с.-г. арцель, у якую ўвайшлі сумленыя працавітыя сяляне, якія, наогул, многа бачылі бяды, якія не баяцца цяжкасьці. Запісалася 8 чалавек. У справе арганізацыі шмат дапамагла часопісь „Плуг“ з сваімі практычнымі артыкуламі па калектывізацыі. Заклікаю ўсіх сялян-дасьледчыкаў стаць на шлях калектывізацыі гаспадаркі. Селянін **А. Івановіч.**

(Бардзілаўка, Самахвалаўскі р.).

# Ці добра класьці штучнае ўгнаеньне пад жыта.

У мінулым годзе, на вучастку ў 192 кв. саж., у нас быў заложаны дасьледчы вучастак з штучным угнаеньнем пад жыта. Увесь вучастак быў разьбіты на 4 роўныя дзялянкі па 48 кв. саж. кожная. Глеба і падглеба вучастку—лёгкі суглінак. Апрацоўка глебы была наступная: папар чорны, узораны ўвосень як толькі была зжата ярына, вясною поле баранавалася і на працягу лета яшчэ два разы пераворвалася звычайным плугам. Ад сарнякоў поле было чыстае і скаціна па ім не пасьвілася. У папярэднім годзе перад папарам на ўсім вучастку быў авёс. Тыдні за тры да пасеву жыта на ўсе дзялянкі было ўнесена ўгнаеньне і зараз-жа зааралася на глыбіню $3^1/_2$ вяршкоў. Пасеў жыта быў зроблены ў пачатку верасьня месяца.

Вясною, як толькі зямля прасохла, усе дзялянкі былі пабаранованы звычайнай бараной у два сьляды. Вынікі досьледу такія:

| №№ дзял. | Назва ўгнаеньн. | Колькасьць | | Вучот ураджаю. | | Розьніца супроць няўгноенай. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На дзял. | На дзес. | З дзял. | З дзес. | |
| 1. | Без угнаеньня | — | — | 1 п. 20 ф. | 75 п. | — |
| 2. | Калійная соль | 15 ф. | 18 п. 30 ф. | 1 п. 32 ф. | 90 п. | + 15 п. |
| 3. | Тамасаўка . | 20 ф. | 25 п. | 2 п. 10 ф. | 112 п. 20 ф. | + 37 п. 20 ф„ |
| 4. | Калійн. соль+ +тамасаўка | 8 ф.+10 ф. | 10 п.+12,5 п. | 1 п. 35 ф. | 93 п. 30 ф. | + 18 п. 30 ф. |

Як бачым, карысьць ад штучнага ўгнаеньня вялікая.

Самы большы ўраджай жыта быў там, дзе ўгноена тамасаўкай= =112,5 п. на дзес. Лічачы на дзесяціну 25 пуд. тамасаўкі па 1 р. 40 к., выйдзе што мы затрацілі 35 руб. Павышэньне-ж ураджаю жыта=37 п. 20 ф., лічачы па 1 р. 35 кап. пуд (цана ўвосень) будзе 50 р. 62 кап. Такім чынам, чыстага прыбытку ў першы год маем 15 руб. 62 кап. Карысьць штучнага ўгнаеньня відавочна. Маё пажаданьне: як больш прасунуць у вёску штучнага ўгнаеньня, зьнізіць на яго цэны., Таксама пажадана, каб пры прадажы ўгнаеньня прадаваліся кніжкі як карыстацца тым ці іншым угнаеньнем, а то часта бывае так, што селянін купіўшы ўгнаеньне, ня ведае як і пад якія расьліны яго лепш уносіць. Селянін **Казімірчык.**

(Верхменскі с/с., Смалявіцкі р.)



# Арганізацыя і жыцьцё сельска-гаспадарчай Камуны „Зьвязда“.

(*Пухавіцкі раён*).

Сельска-гаспадарчая Камуна „Зьвязда“ пачала сваё існаваньне з вясны 1921 г. Гэты год, як усім яшчэ добра ў памяці, быў годам разрухі, бандытызму і іншых перажыткаў пасьля белапольскае акупацыі. Добра вядома, як у той час даводзілася прыхільнікам і ўдзельнікам Савецкае ўлады. Тэрарызаванае насельніцтва баялася сяліцца на панскай зямлі і трэба было перажыць некаторы час, каб ўпэўніцца, што мінуламу няма звароту. У гэтакіх прыблізна умовах пачыналі арганізоўвацца новыя гаспадаркі—калектывы: камуны, сельска-гаспадарчыя арцелі і таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі.

З пачатку арганізацыі ў склад камуны „Зьвязда“ уваходзіла 22 сябра з сем‘ямі — ўсяго 43 душы. Зараз налічваецца 37 сяброў, а з сем‘ямі 69 душ. Пад гаспадарку ім быў дадзены б. маёнтак Шаромысьль, у якім акрамя голых сьцен будовы, больш нічога ня было. З такім капіталам камуна распачала гаспадарыць. Як бачым, становішча было дрэннае. Насельніцтва варожа адносілася да камуны, зычыла ёй з дню на дзень распад. Толькі дзякуючы сумленасьці камунараў, камуна захавалася да гэтага часу і разьвілася ў моцную гаспадарку.

Зямельная тэрыторыя камуны складаецца з такіх часьцін: сядзіба 6,63 дзес., гарод і сад—14 дзес., пахаць—109,5 дзес.. сенажаць балотная (на 8 вёрст)—45,5 дзес., выган з хмызьняком—29 дзес. Усяе ўжытковай зямлі—212 дзес., няўжытковай каля 4 дзес., а ўсяго—216 дзес.

Па каштоўнасьці пахаць у большасьці — суглінак, мясцовасьць нізкая з лагчынамі. Севазварот прапанованы раённым аграномам: 1) папар (палавіна пагноена, другая з лубінам), 2) жыта, 3) бульба і караньплоды, 4) ярына з падсевам канюшыны, 5 і 6) канюшына, 7) жыта і 8) авёс. Плошча занятая пад культурамі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Жыта | 24 дзес. | 5. Канюшына | $27\frac{1}{2}$ дзес. |
| 2. Ярына (зернявыя) | 26 „ | 6. Папар чорны | $14\frac{1}{2}$ „ |
| 3. Бульба і караньплоды | $10\frac{3}{4}$ „ | 7. Аблога | $2\frac{3}{4}$ „ |
| 4. Вікі з аўсом | 4 „ | | |

Пад зернявымі культурамі занята менш палавіны пахаці—50 дзес. 45 проц. У сялянскіх гаспадарках пад зернявымі культурамі застаецца да трох чвэртак, ці 73 проц. Зернявыя культуры пры частай зьмене пустошаць пахаць. Пры трохпольлі зварот зернавых на тое самае месца надта часты. Пры 8-мі польным севазвароце тая-ж самая культура зварачваецца на старае месца ня менш як праз 4 гады, пры гэтым існуе правільнае чаргаваньне зернавых культур з бульбаю, канюшынаю і чорным папарам, што мае вялікае значэньне для падняцьця ўраджайнасьці.

Севазварот разьлічаны на жывёлаводны напрамак, для чаго ён і займае два палеткі канюшыны і адзін бульбаю з караньплодамі. Гаспадарка забясьпечвае сябе значным лікам корму на ўтрыманьне

прадукцыйнае жывёлы. У далейшым патрэбна ў севазварот увесьці тэхнічныя культуры, лён ці бульбу, якая з іх будзе каштоўней згодна прыродным і эканамічным умовам данай мясцовасьці.

Да апошняга году ўгнаеньне глебы зусім не дастаткова толькі з гэтага году камуна пачала ўжываць штучнае ўгнаеньне. Аб ўраджайнасьці галоўных культур сьведчыць ніжэйпаданая таблічка; побач даецца графа аб сярэднім ураджаі па Беларусі (справаздача НКЗБ).

Ураджайнасьць з дзес. у пудох зярня.

| Культура | У камуне (у пудох) | Па Беларусі (у пудох) | Больш + менш — |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . | 65 | 45,7 | + 19,3 |
| Пшан. яравая . . | 24 | 42,9 | — 17,1 |
| Авёс . . . . . | 53,4 | 40,3 | + 13,1 |
| Бульба . . . . | 550 | 517,3 | + 33,7 |
| Канюшына . . . | 148 | 213 | — 65 |
| Сенажаць . . . | 78 | 100 | — 22 |

Жыта, авёс і бульба даюць большую ўраджайнасьць у параўнаньні з сярэдняй па Беларусі. Канюшына дае на 65 пуд. менш сярэдняй ураджайнасьці. Як відаць ураджайнасьць нізкая. Камуна прымае належныя крокі, каб дасягнуць павялічэньня ўраджайнасьці, асабліва бульбы і канюшыны, ураджайнасьць якіх надта нізкая.

Далей будзе цікава азнаёміць, якія выдаткі робіць гаспадарка на адну дзесяціну кожнае культуры. Выдаткі бяруцца ў грашовым ліку, па кошту іх для самой гаспадаркі (мужчынскі дзень каштуе 81,5 кап., конскі—85 кап.).

Выдаткі гаспадаркі на 1 дзес. у рублёх у працягу году (на адзін корань ураджаю).

| Культура | Трактара | Конскай сілы | Людзкой раб. сілы | Насеньнем | Угнаеньнем | Агульныя расходы | Выдаткі мінулых год | Усіх выдаткаў на 1 дзесяціну |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта азімае . . | 1,72 | 1,99 | 9,08 | — | — | 4,66 | 31,06 | 49,60 |
| Пшаніца яравая . | 12,32 | 4,60 | 7,54 | 9,90 | — | 1,64 | — | 36,00 |
| Авёс . . . . . | 12,30 | 4,02 | 7,54 | 12,85 | — | 3,68 | -- | 40,38 |
| Бульба . . . . | 12,30 | 18,77 | 37,06 | 30,00 | 39,00 | 4,95 | 6,20 | 148,29 |
| Канюшына . . . | — | 1,07 | 3,65 | — | — | 3,45 | 9,69 | 17,70 |

Увага: У выдаткі ўлічаны: воранка, баранаваньне. жніво і прыборка ў гумно, абмалот, угнаеньне, насеньне, падатак, утрыманьне пудовы і інш.

Найбольш каштоўнай у гаспадарцы зьяўляецца дзесяціна бульбы за тым ідзе жыта, авёс, пшаніца. З танейшых—дзесяціна канюшыны. На дзес. канюшыны гаспадарка траціць усяго 17 р. 70 к. пры ўраджайнасьці 148 пуд. сена.

Рабочай сілы мужчын, жанчын на дзес. бульбы і на ўсе работы трацінца гаспадаркай на 37 р. 6 к., між тым як на дзес. жыта — 9 р. 8 к. аўса і пшаніцы па 7 р. 54 к., а на дзес. канюшыны толькі на 3 р, 65 к. Бульба—найбольш працаёмкая з усіх культур.

З памянёных тут культур амаль усе прыбыльны, акрамя бульбы, якая дае валавога прыбытку з дзес. 136 р. 50 к. (па 25 кап. за пуд), і не пакрывае выдаткаў на 10 р. 78 к. Галоўная прычына таму нізкі ўраджай.

Забясьпечанасьць камуны сродкамі вытворчасьці, супроць дробных сялянскіх гаспадарак, стаіць значна вышэй, як буйнай гаспадаркі. Яна мае магчымасьць скарыстаць усе дасягненьні сельска-гаспадарчае тэхнікі, між тым як дробная гаспадарка гэтага зрабіць ня зможа, а таксама выгадна скарыстаць удасканаленую машыну.

З дапамогаю крэдыту камуна набыла шэраг удасканаленых машын; радковую сеялку, жняярку, трактар і інш.

Забясьпечнасьць гаспадаркі капіталамі.

| НАЗВА КАПІТАЛУ | Сума ў рублях | На 1 дзес. пахаці ў руб. | На 1 работніка |
|---|---|---|---|
| Жыльлёвай будовы . . . . . | 3738 | 40,63 | 93,45 |
| Халоднай будовы . . . . . | 4628 | 50,30 | 115,70 |
| Мёртв. інвэнтар . . . . . . | 3462 | 37,63 | 86,55 |
| Трактар, . . . . . . . . . | 1000 | 10,87 | 25,00 |
| Коні і жняярка . . . . . . | 2055 | 22,34 | 51,37 |
| Прадукт і жывёла . . . . . | 4970 | 54,00 | 124,25 |
| Усяго . . . . . | 19853 | 215,77 | 496,32 |

Забясьпечанасьць камуны прыладамі можна бачыць з таго, колькі іх прыходзіцца на 1 дзес. пахаці. ці аднаго працаўніка ў пераліку на грошы. На адну дзссяціну прыходзіцца 215 р., а на аднаго працаўніка—496 р. з усіх прыладаў Капіталамі камуна забясьпечана вышэй сярэдняй сялянскай гаспадаркі, але яшчэ нездавальняюча і якасьць розных прыладаў трэба значна павышаць. Тое-ж самае трэба адзначыць наконт будынкаў, як жыльлёвых так і гаспадарчых.

Далей цікава, па якіх галінах прыбывае маёмасьць у камуне. Многія сяляне і інш. супярэчнікі камуны гавораць, што камуна ўсё што зарабляе, то і праядае, а ў гаспадарку нічога ні прыбаўляе. Каб пераканацца, паглядзім колькі набыла камуна маёмасьці за адзін год. Возьмем падлічым тое, што мелася ў пачатку арганізацыі камуны, потым у пачатку і ў канцы бюджэтнага году і параўнаем.

Узрост маёмасьці камуны:

| НАЗВЫ МАЁМАСЬЦІ | Пачатак арганізацыі | | Пачатак бюджётнага году | | Канец году | | Прыбытак уменшаны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік | Кошт у руб. | Лік | Кошт у руб. | Лік | Кошт у руб. | |
| Будоўля . . . . . . | 26 | Няма ацэнкі | 26 | 8025 | 27 | 8366 | + 314 |
| Інвэнтар мёртвы . . . | — | | — | 3557 | — | 3462 | — 95 |
| Трактар . . . . . . | — | | 1 | 1500 | 1 | 1000 | — 500 |
| Коні з жарабятамі . . . | 9 | | 9 | 1370 | 9 | 2055 | + 685 |
| Рагатая скаціна. . . . | 12 | | 36 | 2016 | 38 | 3208 | +1192 |
| Сьвіньні . . . . . . | 12 | | 42 | 1570 | 71 | 1664 | + 94 |
| Птушкі . . . . . . | 43 | | 50 | 40 | 58 | 43 | + 3 |
| Пчолы . . . . . . | — | | 16 | 80 | 11 | 55 | + 25 |
| Сыраварня . . . . . | — | | — | — | 1 | 854 | + 854 |
| Млын . . . . . . | — | | 1 | 6287 | 1 | 5301 | — 976 |
| Усяго . . | | | | 25945 | | 26008 | + 63 |

Наогул кошт маёмасьці на пачатку году мае суму на 25945 руб. а ў канец году—на 26008 руб.;такім чынам маем зусім нязначнае павялічэньне толькі на 63 руб. Пры такой значнай гаспадарцы можна было-б чакаць значна большага ўзросту маёмасьці. Прычын гэтаму трэба шукаць ні ў самой камуне, а па за-межамі. Асноўныя галіны гаспадаркі: рагатая скаціна, коні і жарабяты сьвіньні, пабудова сыраварні, будоўля за год дала значны ўзрост маёмасьці. Зьмяншэньне маёмасьці адбываецца: кошт амартызацыі 500 руб. трактару, млына, а ўсяго на 986 руб., дзякуючы таму што прамысловасьць выпускае



Абед у сельска-гаспадарчай камуне „Зьвязда".

ня зусім адпавядаючыя машыны, а таксама адсутнасьць запасных частак да трактара і належнага рамонту.

Наогул-жа разьвіцьцё гаспадаркі камуны мае здаровы і правільны напрамак. Асабліва трэба падкрэсьліць шпаркае разьвіцьцё жывёлагадоўлі. У камуне было 28 кароў рознае масьці. За год дойныя каровы былі зьменены частка на куплёныя, а частка выгадаванымі ў гаспадарцы; дзякуючы гэтаму павялічылася самая каштоўнасьць стадка і яго ўдойлівасьць. У сярэднім адна карова дае каля 25 вёдзер (70,5 п.) малака. Сьвінагадоўля ў камуне займае значную ўдзельную вагу. У пачатку году сьвіней было 42 штукі каштоўнасьцю 1570 руб., а ў канцы году 71 штука, на 1664 руб. Усе сьвіньні чыстакроўныя сярэднія іоркшыры. Для пашырэньня сьвінаводзтва будуецца новы сьвінух з палепшанымі кармушкамі.

Жывёлаводны напрамак гаспадаркі найбольш падыходзіць да мясцовасьці прыродных умоў. За апошнія 2-3 г. падымаецца значэньне малака, як рыначнага прадукту. Прадаваць няздыманае сьвежае малако могуць толькі прыгарадныя гаспадаркі. Тым-жа, хто жыве далёка, прыходзіцца думаць як аб перапрацоўцы малака ў масла і сыр. У зьвязку з гэтым камуна пабудавала масладзельна-сыраварны завод. З першага году, за кароткі час—у 2-3 м-цы, зварана больш за дзьве сотні пу-

доў галяндзкага сыру. Акрамя свайго малака, камуна забрала малако сялян, саўхозу Любін і с.-г. тэхнікуму. Пакупка сялянскага малака сьведчыць аб уплыве, які ў далейшым будзе мець на пераарганізацыю сялянскае гаспадаркі. Камунаю робяцца першыя крокі для пастаноўкі правільнага кармленьня жывёлы. Для большае відавочнасьці прыводзім рахунак утрыманьня рагатае жывёлы ў камуне:

| Чарг. №№ | Назва выдаткаў у працягу году | Лік | Кошт Руб. | Кошт К. | Чарг. №№ | Назва валавога прыбытку ў працягу году | Лік | Кошт Руб. | Кошт К. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Каштоўнасьць рагатай жыв. у пач году . . | 36 | 2016 | — | 1. | Кошт рагатай жывёлы ў канцы году . . | 38 | 3208 | — |
| 2. | Куплена за год. . . . | 7 | 538 | 75 | 2. | Прададзена за год у розны час . . . | 9 | 757 | — |
| 3. | Кошт кармоў . . . . | — | 3229 | 42 | 3. | Атрымана цялят ад ацёлу кароў . . . | 20 | 96 | 50 |
| 4. | Кошт людзкой работы 1622 дзён. . . . . | — | 1297 | 60 | 4. | Надоена малака за год. | 1973 п. | 3442 | 60 |
| 5. | Кошт пашы. . . . . | — | 450 | 90 | 5. | За злучку сялянскіх кароў, гной і інш. | — | 490 | 07 |
| 6. | Кошт утрыманьня хлявоў і інш. . . . . | — | 463 | 72 | | | | | |
| | | | | | | Разам. . . | — | 7994 | 17 |
| | Усяго выдаткаў. . . | | 7996 | 39 | | Убытку . . . | — | 2 | 22 |

У гэтым рахунку ўсе харчы і прадукты пастаўлены па такой цане, па якой іх можна купіць ці прадаваць на рынку.

Кармленьне жывёлы яшчэ не арганізавана правільна, мала канцэнтраванага карму і зусім адсутнічаюць корань-плоды і сіласаваныя кармы.

*(Працяг будзе).*

**М. Клімко.**

---




## Паказальныя мерапрыемствы па садоўніцтву.

Побач з вялікім разьвіцьцём галіны садоўніцтва ў акрузеназіраецца надзвычайна нізкая тэхніка гэтае галіны. Большая палова сялян-садаводаў, ніякай працы па палепшаньню сваіх садоў не вядзе. Праз гэта ўраджаі бываюць вельмі нізкія (200—300 п.) з дзес. Плады дрэннай якасьці, якія ня маюць месца на іншагародніх рынках, а запаўняюць мясцовы рынак па 36-50 к. п. Адсутнасьць належнай тэхнікі ў сялянскіх садох, тлумачыцца слабой падрыхтоўкай насельніцтва ў гэтай галіне. Часта на сел.-гасп. курсах у раёнах, аграперсанал на садоўніцтва і гародніцтва зусім мала зьвяртае ўвагі, а між тым насельніцтва вельмі цікавіцца імі. Нашы працаўнікі ў большасьці яшчэ і да гэтага часу лічуць садоўніцтва і гародніцтва галінамі, ня маючымі эканамічнай падставы. Паміж тым, інтэнсыфікацыя сельскае гаспадаркі павінна пайсьці па шляху павялічэньня садоўніцтва і гародніцтва, як высока-інтэнсыўнае галіны. Да сучаснага моманту практычная праца ў галіне садоўніцтва і гародніцтва праводзілася па шляху закладкі паказальных садоў і гародаў. Чатырохгадовае існаваньне паказальных садоў і гародаў, паказвае, што сады і гароды, часта раскіданыя па хутарох і маючыя кансэрватыўных гаспадароў не зрабілі ніякага ўплыву на суседнія сады і гароды. Такія вывады мною былі зроблены пасьля летняга абсьледваньня. Такі від мерапрыемства зьявіўся ня жыцьцёвым. Вось таму і прышлося шукаць новы напрамак, каб мерапрыемствы ў гэтых галінах закранулі ня толькі адну, а некалькі гаспадарак адразу. Трэба праводзіць гняздавую працу, якая найбольш карысна і дае адразу ўзоры для суседніх гаспадарак. Кожны працаўнік у сваім раёне ведае найбольш садовыя або гародныя мясцовасьці. Там ён і павінен пачынаць працу. На агульным сходзе гаспадароў трэба прапагандаваць аб патрэбнасьці правядзеньня культурных мерапрыемстваў у садох і гародох. Тут-жа робіцца агульны прыгавор аб абавязковым і агульным правядзеньні гэтых мерапрыемств, у першую чаргу можа быць праведзена: барацьба са шкоднікамі, абрэзка, угнаеньне, складаньне належнага пладазьмену, ачыстка, пракопка канаў дзеля асушкі і г. д. На сходзе аграном прызначае тэрмін правядзеньня памянёных калектыўных работ. На сродкі, якія цяпер адпускаюцца для паказальных садоў, можна купіць садовы або гародны інвэнтар для калектыўнага карыстаньня ім. З гэтага-ж гнязда пажадана вылучыць найбольш адпавядаючага гэтаму селяніна, які-б наглядаў за інвэнтаром і падтрымліваў-бы праведзенае мерапрыемства. Вылучэнца трэба прапусьціць праз акруговыя або раённыя курсы па садоўніцтву, якія павінны адбывацца штозімку. Такіх гнёздаў гурткоў магчыма закласьці кожнаму аграпрацаўніку па некалькі ў кожным с/с. Вось толькі пры такіх умовах, калі праца па садоўніцтву ахопіць масу гаспадарак, паказальныя мерапрыемствы дасягнуць сваёй мэты. Такія куставыя мерапрыемствы па садоўніцтву праводзіліся вясною 1927 г. ў Віцебскай акрузе і далі досыць добрыя вынікі.

(Акр. Садавод Віцебскага Акрза).

**Лубоўскі.**

# Цікавы выпадак з гуркамі.

Цікавы выпадак быў у мяне мінулым летам (1927 г.) з гуркамі. Аб гэтым выпадку я хочу паведаміць «Плуг». Маючы пад рукамі супэрфасфат і калійную соль, я надумаў пакласьці гэта ўгнаеньне пад гуркі. Уплыў гэтых угнаеньняў на насеньне я ня ведаў. І вось я зрабіў так: загатовіў вучастак і прагнаўшы радкі пад пасеў гуркоў, пасыпаў мешаніну супэрфасфату і калійнае солі ў радкі, палкай зьмяшаў з зямлёй і зьверху пасеяў насеньне гуркоў. Далей, як належыць—радкі засыпаў зямлёў.

Тут-жа, у поруч, на гэтым-жа самым вучастку і тым самым насеньнем пасеяў я ў тэй самы дзень тры радкі, але бяз гэтага ўгнаеньня.

Прайшло некалькі дзён. На трох радкох, дзе сеяліся гуркі без угнаеньня, паказаліся ўсходы. Радкі з угнаеньнем толькі неяк зьверху пачарнелі. Прашло і яшчэ тыдні два. Гуркі без угнаеньня пусьцілі ўжо па другім лістку, а там, па ўгнаеньню, нават і ўсходзіць ня думаюць.

Папрабаваў раскапаць. Ляжаць зярняткі, як зімою, сьвежыя, белыя, толькі крыху набракшыя. Каб не сьмяяліся з мяне людзі (а нашы сяляне ой як любяць сьмяяцца з такіх вось «агрономаў», калі ў іх што не ўдаецца!), я пачынаю выбіраць гэтыя гатовыя ўсходы і садзіць іх на радах, дзе гуркі ня ўзышлі. Так прашло яшчэ тыдні два (ужо паўтара месяца з часу пасеву). Калі выйшаў я адзін раз на гарод, аж мае радкі, дзе я садзіў гуркі па ўгнаеньню, аж зелянеюць ад сьвежанькіх, малодзенькіх усходаў. Ды так ўзышлі, што, здаецца, ніводнае зярнятка дарма не прапала: на ўсе 100 проц.

Ды як пашлі, ды як пашлі расьці!.. Праз паўтара тыдні ўжо перагналі тых, што былі пасеяны без угнаеньня. Я і вырываў, дзе густа, пакідаючы каліва ад каліва на 3 вяршкі, потым прышлося яшчэ вырываць, пакідаць ужо праз 6 вяршкоў, і то рады мала! Глушыць усё! (Рад ад раду быў на 1¼ аршына). Вярхі сашчыпваў—нічога не дапамагае!

Без угнаеньня гуркі ўжо цьвітуць, ужо з іх гуркі зьбіраюць, а гэтыя гонюць у каліўе і толькі. А дзе і зацьвітуць, дык у пачатку ўсё пустацьветам.

Але вось у другой палове жніўня дачакаўся і тут гуркоў. І толькі пасьпявай выбіраць. Сёньня выбярэш, а заўтра зноў трэба зьбіраць. Ды ўсе такія сьвежыя, малодзенькія, зялёненькія, доўжанькія!.. Ды і так яны ў час пасьпелі: толькі саліць на зіму. У другіх гаспадароў гурэчнік пажоўк, пасох, а гэты—толькі ў сілу ўзяўся. У сярэднім, кожын рад з угнаеньнем (па прыблізнаму падліку) даў па 11 коп гуркоў, а без угнаеньня толькі 5.

Тут ужо кожнаму відавочна, што карысьць ад унясеньня мінэральных парашкоў ёсьць. Але вось мне і да гэтага часу не зразумела, чаму гэта насеньне такі доўгі час (амаль паўтара месяца) не ўсхадзіла? Ці то затым, што я насеньня сеяў на сьвежае ўгнаеньне, ці то наогул угнаеньне мае такі ўплыў на гуркі?

Калі хто ведае, прашу паведаміць[1]).

**П. А. Самцэвіч.**

в. Дакудава
Крупск. р.

---

[1]) Рэдакцыя просіць дасьледчыя станцыі не адмовіць у адказе на артыкул тав. Самцэвіча.

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Адкорм курэй.

Адкормам курэй маецца на ўвазе атрымаць з іх большую колькасьць мяса і тлустасьці. Адкорм пачынаецца тады, калі кармленьне ня мае ніякага значэньня ў сэнсе разьвіцьця касьцей і мускулаў, г. з. калі птушка знаходзіцца ў поўным узросьце.

Але ня кожную птушку ёсьць сэнс адкармліваць. Аб гэтым і будзе гутарка ў нашым артыкулу.

Трэба заўсёды адрозьніваць птушак з разьвітымі мускуламі ад тых, у якіх яны слабыя, мала разьвітыя. Першыя пасьля адкорму дадуць вялікую колькасьць і мяса і тлустасьці, другія-ж многа сала, а мяса зусім мала. Таму трэба адкармліваць курэй з разьвітымі мускуламі.

Калі куры прызначаюцца для адкорму, дык ужо з маладога ўзросту іх трэба ня толькі добра карміць, але і разьвіваць мускулы пры дапамозе належнага руху. Старых курэй няма сэнсу адкармліваць, яны скора робяцца тлустымі, але мяса іх цьвярдое.

Для адкорму больш прыгодны маладыя, але ўзрослыя курачкі, 6—8 месяцаў, якія яшчэ ня несьлі яек, або нясьлі іх вельмі мала. Пеўні для адкорму годны тыя, якія не гралі з курамі, а трымаліся ў асобным памяшканьні. Адкорм ня зусім дасягае сваёй мэты ў тым выпадку, калі куры пужлівыя (дзікія). Гэтыя якасьці робяць птушку няпрыгоднай для адкорму, таму што карміць іх дрэнна. Далей, пры выбару пароды курэй для адкорму, мае значэньне рост, таму што малыя куры патрабуюць столькі-ж часу для адкорму, як і вялікія, а карысьці з іх менш.

Для спажыўца важна, каб косьці былі меншыя і лягчэйшыя адносна мяса. Мяса павінна быць смачнае, больш-жа смачнае мяса бывае ад заводзкіх курэй.

З парод для адкорму больш прыгодны наступныя: Род-Айлёнд, Плімутрок, Віандот і Фавэроль, якія пры добрай нясучасьці (130—180 яек у год) добра адкармліваюцца. Што-ж датычыцца мэтадаў адкорму, дык іх толькі два: 1) добраахвотны і 2) прымусовы. Каб дасягнуць жаданых вынікаў адкорму карыстаюцца абодвымі.

З дабраахвотным кармленьнем курыца, або певень ня так хутка адкармліваюцца, як з прымусавым. Для таго, каб кармленьне лепш дасягала сваей мэты, трэба спачатку падрыхтаваць курэй да адкорму пры дапамозе палепшаньня корму, зьмяньшэньня руху, але не канчатковага зьнішчэньня волі. Гэта падрыхтоўчы пярыяд, у які курыца робіцца поўнай, але ня тлустай; да гэтага становішча іх кормяць разы 3-4 ў дзень ячмянём у перамешку з варанай бульбай. Калі куры робяцца тлустымі, для чаго патрэбны 2-3 тыдні пры добрым кармленьні, іх садзяць у ня зусім цёмныя месцы ў клетцы, з рашочатым дном, па ўзору тых адкормачных клетак, якія накіраваны ўва ўсе АКРЗА, як узоры, дзе іх кожны можа разгледзіць.

Кармленьне курэй, якія трымаюцца ў клетцы—добраахвотнае кармленьне. Яно спрыяе хуткаму адкорму, таму што куры ня маюць магчымасьці хадзіць.

Трэба клапаціцца, каб у курэй заўсёды была чыстая вада. Корм павінен быць з ячмяню, кукурузы або цеста з грэчневай, ячменнай, або кукурузнай мукі, на палову з кіслым малаком і вадою. Гэта і даецца курам; або прыгатаўляецца мешанка з варанай бульбы, мукі, кіслага малака і вады. Каб куры добра елі, трэба мяняць корм. Пры гэтым з карыта кожны раз трэба выбіраць рэштку ад першае яды.

Пры такой сыстэме адкорму хутка наступае момант, калі ад прэсышчэньня кормленыя куры пачнуць мала есьці. Калі гэты момант упусьціць, дык тэмп павялічваньня тлустасьці хутка зьмяншаецца. Таму раней, чым наступае гэты момант, ці як толькі ён ужо настаў, курэй трэба прадаць. Калі куры, засаджаныя ў клеткі, добра кормяцца, дык момант канца адкорму наступае на восьмы дзень.

Мэтадам прымусовага кармленьня можна карыстацца і да пасадкі курэй ў клетку. Ім карыстаюцца так: бяруць галушку велічынёй з лясны гарэх, і імі кормяць курэй. Каб усунуць такі кавалак у горла курыцы, трэба асаблівая спрытнасьць. Таму карыстаюцца клёцкамі невялікага разьмеру, хаця пры гэтым і затрачваецца больш часу і працы. Адкормшчыца або адкормшчык бярэ з клеткі па дзьве курыцы, абгортвае іх дзяружкаю так, каб шыі былі слабодныя, садзіць на калені, абхватвае левай рукой па чарзе галовы курэй, раскрывае дзюб, а правай рукой бярэ галушку, мочыць у вадзе і ўкладае ў горла, а потым пхае яе ўказальным пальцам так глыбока, каб курыца мела магчымасьць праглынуць тры клёцкі падрад, адну за другой. Трэба асьцярагацца лішку перапаўняць вальле, асабліва ў пачатку адкорму.

Рабіць гэта трэба два разы ў суткі: раніцай і ўвечары. У выпадку, калі яда за гэты тэрмін не пераправілася, тады птушку карміць ня трэба, а лепш яе адсадзіць.

Тэрмін адкорму гэтым спосабам з дню пасадкі курыцы ў клетку, вызначыцца ад 2 да 3 тыдняў.

Л. Чарткоў.

---

# Дасьледча-паказальнае кармленьне сьвіней.

Турскай с-г. дасьледчай станцыяй у лістападзе м-цы 1926 г. пастаўлена было дасьледча-паказальнае, кармленьне сьвіней ў сялянскіх гаспадарках (в. Турск) і ў завадзкім выхавальніку станцыі.

Тэмы былі ўзяты наступныя:

I. Параўнаньне адкорму па нормах і бяз норм (у сялянскіх гаспадарках).

II. Параўнаньне адкорму простых сьвіней і мяцісаў (у сялянскіх гаспадарках).

III. Параўнаньне выхаваньня парасят простых і іоркшырскіх (на станцыі).

IV. Параўнаньне вырошчваньня простых парасят па нормах на дасьледч. ст. і бяз норм гэтага-ж узросту ў сялян.

Па I і II досьледу былі ўзяты ў сялян в. Турск, Сокалава, Бандарава, Шчарбакова і Цярэшкіна 8 сьвіней: 3 мяцісы ва ўзросьце ад 1 году і 2 мес. да $1^1/_2$ году (лягчаныя кабаны) і 5 простых у тым-жа ўзросьце. Сьвіньня кармілася паасобку па нормах, якія былі складзены

па табліцах Кельнера, а 2 з іх карміліся бяз норм і служылі кантролем.

Нормы мяняліся раз у месяц, кожны раз пасьля папярэдняга ўзважваньня. Адкорм скончыўся 15-га сакавіка. 3 сьвіньні ў сялян Бандарава, Шчарбакова і Сокалава былі забіты пасьля I пярыяду адкорму (бо яны захварэлі). Але-ж перад тым, як іх біць, усе сьвіньні былі ўзважаны. Такім чынам мы маем магчымасьць вытвараць параўнаньне за I пярыяд адкорму ўсіх 8 сьвіней, а астатніх 5 сьвіней за ўвесь пярыяд адкорму, г. зн. за $3^{1}/_{2}$ месяца.

Лічбовыя даныя зьведзены ў наступнай табліцы:

| №№ па чарзе | У КАГО ПРАВЕДЗЕН ДОСЬЛЕД | Узрост | Вага ў пачатку адкорма 28-XI | Вага праз 1 м-ц 28-XII | Прыбаўка | На 1 кл. прыросту пашло корму ў крух. эквів. | Канец адкорму 15-III | Прыбаўка вагі за ўвесь перыяд адкорму | На 1 кл. прывесу пашло корм. ў крух. эквів. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Мяцісы.** | | | | | | | | |
| 1 | Сокалава Кл. . . | 1 г. | 92 к. | 109 к. | +27 | 2. 4 | 171 | +79 | 3.09 |
| 2 | Бондарава Н. . . | 1 г. 5 м. | 81 к. | 100 к. | +19 | 2. 7 | — | — | — |
| 3 | Цярэшкіна . . . | 1 г. 5 м. | 76 к. | 96 к. | +20 | 2. 5 | 140 | +64 | 2.96 |
| | У сярэднім на 100 кл. жыв. вагі . . | — | — | — | +22.1 | 2.53 | — | 85.7 | 3.02 |
| | **Простыя.** | | | | | | | | |
| 1 | Сокалава . . . | 1 г. 5 м. | 102 | 120 | +18 | 3. 7 | — | — | — |
| 2 | Бондарава . . . | 1 г. 5 м. | 80 | 98 | +18 | 2.85 | 140 | +60 | 3.57 |
| 3 | Цярэшкіна . . . | 1 г. 5 м. | 75 | 86 | +11 | 4. 4 | — | — | — |
| | У сярэднім на 100 кл. жыв. вагі . . | — | — | — | +18.4 | 3.65 | — | 75 | 3.57 |
| | | | | | | | | 6 кар. адз. | |
| | Адкармліваліся бяз норм | | | | | | | | |
| 1 | Шчарбакова мяціс. | 1 г. | 45.5 | 66 | +20 | 4.55 | 101 | 55.5 | 5.46 |
| 2 | Шчарбакова прост. | 1 г. 2 м. | 66 | 77 | +11 | 5. 8 | — | — | — |
| | У сярэднім на 100 кл. жыв. вагі . . | — | — | — | +28 | 5.16 | — | 122 | 5.46 |
| | | | | | | | | 9 кар. адз. | |

З табліцы відаць, што мяцісы як у I пярыяд адкорму, так і ў другі лепш адкармліваліся, далі больш прыбаўкі вагі і лепшую аплату корму а іменна:

мяцісы ў I-ы пярыяд на 100 кл. жыв. вагі далі прыбаўкі 22.1 кілёгр.
(пры затраце па 1 кл. 2.53 крух. эквів.)
за ўвесь пярыяд на 100 кл. жыв. вагі далі прыбаўку 85.7 кілёгр.
(пры затраце на 1 кл. 3.02 крух. эквів.)
Простыя ў I-ы пярыяд на 100 кл. жыв. вагі далі прыбаўку 18.4 кл.
(пры затраце на 1 кл. 3.65 крух. эквів.)
за ўвесь пярыяд на 100 кл. жыв. вагі далі прыбаўку 75 кілёгр.
(пры затраце на 1 кл. 3.75 крух. эквів.)

Значная розьніца атрымана пры параўнаньні адкорму па нормах і бяз норм: на 1 кл. прывесу пры кармленьні ўволю пашло 5.46 кр. эквів. тады як пры адкорме па нормах на 1 кл. трацілі ў сярэднім для ўсіх сьвіньней 3.3 крухмал. эквів. корму. Агульная-ж прыбаўка, пры разьліку на 100 кл. вагі аказалася большай чымся ў сьвіньней, якіх карміл па нормах, тлумачыцца болей малодшым узростам з аднаго боку і вельмі багатым кармленьнем з другога боку. Пры чым, у кармовай дачы ўвесь час былі неправільныя адносіны між бялковымі і безбялковымі пажыўнымі кармамі.

У даным раёне праз тое, што маецца шмат бульбы,назіраецца пры адкорме сьвіней у сялянскіх гаспадарках імкненьне магчыма больш яе скарміць, пры нязначнай прыбаўцы, а ў іншых выпадках і пры адсутнасьці, асяродкаваных кармоў, таму станцыі для досьледу прышлося выдаць сялянам сваіх кармоў—галоўным чынам макухі.

Павінны адзначыць, што сяляне ня мелі ніякага паняцьця аб кармленьні свіней макухай. Досьледы па адкорму сьвіней з прыбаўленьнем макухі зацікавілі іх і потым імі-ж была макуха ацэнена па якасьці нараўне з субарнай макухай.

Па адозве сялян і па нашым назіраньням, пры большай разнастайнасьнасьці ў кармовай дачы розных гатункаў кармоў з прыбаўкай макухі, сьвіньні заўсёды лепш паядалі корм і відавочна лепш папраўляліся чым тыя, якія карміліся бяз правільных норм і аднастайным кормам (як напрыклад, адной бульбай).

Досьледы вяліся зоотэхнікам станцыі М. Ф. Юнгер пад кіраўніцтвам заг. станцыі М. Я. Драздова.

I-я доследы, як было ўжо ўказана, пастаўлены былі ў сялянскіх гаспадарках. Бязумоўна, свае мэты яны дасяглі: сяняне пераканаліся ў неабходнасьці паляпшэньня сваіх свіней іоркшырскімі і ў неабходнасьці адкорму па нормах з дадаткам у іх асяродкаваных кармоў.

**М. Драздоў і М. Юнгер.**

(Турская с.-г. дасьледч. станцыя).




# Замацоўка і аблясеньне пяскоў.

У нумары 7 часопісу „Плуг“ за ліпень месяць мінулага году я прыблізна адзначаў, колькі ў нас на Беларусі маецца пяскоў, як іх трэба скарыстоўваць і што яны маглі-б даць сялянству. Цяпер я застанаўлюся на самай тэхніцы іх замацоўкі і аблясеньня.

Перш-наперш трэба ведаць, з якімі пяскамі мы сустракаемся, бо ўсе пясчаныя плошчы падзеляюцца на:

1) сыпучыя пяскі, 2) паўзадзярнелыя і 3) задзярнелыя.

1. Сыпучымі пяскамі завуцца пясчаныя плошчы, якія на сваём паверху нямаюць жаднай расьліннасьці: травы, кустоў, а пераносяцца ветрам з месца на месца, засыпаюць луг, пашу, сядзібы і гэткім чынам пашыраюцца па плошчы.

2. Паўзадзярнелыя—гэта ёсьць таксама сыпучыя пяскі, але ўжо крыху затрыманыя. Часткай яны таксама *выдзімаюцца* ветрамі пераносяцца з месца на месца, захопліваюць суседнія культурныя плошчы, але значна менш, чымся першыя, бо тут ужо ёсьць дзе-ні-дзе расьліннасьць якая і затрымлівае пяскі.

3. Задзярнелымі пяскамі завуцца пясчаныя плошчы, якія ўжо крыху зацягнуліся рознай расьліннасьцю і якая ўтварыла на іх паверхні дзярніну. Такія пяскі зараз ня выдзімаюцца ветрам і знаходзяцца ў „спакойным становішчы“.

Зрабіўшы такі кароткі агляд існуючых у нас пясчаных плошчаў, мы бачым, што самымі пагрознымі будуць „сыпучыя пяскі“.

Дзеля затрыманьня сыпучых пяскоў ёсьць розныя спосабы: 1) утварэньне заслонаў, 2) замацоўка высевам траў і 3) замацоўка дрэўнай расьліннасьцю.

1. Заслоны ўтвараюцца найчасьцей тады, калі пясчаныя выспы знаходзяцца пры сядзібах, агародах, садох і заносяць іх. Робяцца яны з частаколу, аполкаў, альбо проста супроць пануючых ў гэтай мясцовасьці ветраў ставіцца звычайны густы плот. Але найлепш рабіць пляцень, бо яго таньней і лягчэй зрабіць. Дзеля гэтага на краю выспы забіваюцца звычайныя калы на 1-2 арш. адзін ад другога, прыблізна па аднэй лініі, а тады прасторы між каламі трэба пераплесьці дубцамі (буйнымі), альбо хмызняком, беразьняком, яловымі лапкамі і інш. Тады пясок, які падымаецца і нясецца ветрам, будзе затрымлівацца гэтым плецянём. Тут ён асядзе і будзе паступова ўтвараць пры заслонах пясчаныя ўзгоркі. Часова гэткі заслон дапаможа, але ў далейшым, калі пясок параўняецца ў вышыню з ім, ён зноў будзе ветрам зьдзімацца і праз верх заслона слабодна пойдзе на культурную плошчу. Таму лічаць, што заслоны могуць дапамагчы часова, а на далейшы час трэба паклапаціцца стрымаць сыпучыя пяскі травяной, альбо дрэўнай расьліннасьцю.

2. Замацоўка сыпучых пяскоў травамі патрабуе ня так многа сродкаў і часу. Дзеля гэтай мэты найбольш прыгодны, так званы „пясчаны авёс“ (Elytus arenarius), які дзіка расьце на пясчаных плошчах на поўдні Саюзу. Высеў яго робіцца найбольш позьняй восеньню.



Пляцень з хворасту, які ставіцца супроць ветру ад пясчаных заносаў.

Дзеля гэтага ганяюць плугам барозны глыбінёю 3-4 вершкі, альбо проста робяць невялічкія плашчадкі гнёзды. Як барозны, гэтак і гнёзды робяцца адлегласьцю на 1 арш. Насеньне сыплецца каліў па 10 у гняздо, а ў баразнах можна рэдка па ўсей баразьне. Па высеву насеньне засыпаецца: у гнёздах рукамі, граблямі ці матыкаю, а ў барознах—зваротным ходам плуга. На дзесяціну пясчанай плошчы пры такіх спосабах севу трэба 1-$1^1/_2$ пуда насеньня. Дзе гэты авёс дзіка расьце, там практыкуюць замацоўваць пяскі высадкай у барозны ці ямкі яго карэньні. Такім спосабам замацоўваюць пяскі і іншымі травамі, але ў нас на Беларусі гэта ня ўжываецца. Травамі цяжка замацоўваць узгоркі сыпучых пяскоў; бо насеньне лёгка зьдзімаецца ветрам разам з пяском, травы патрабуюць штогодняга на першых гадох аднаўленьня, а затым могуць загінуць пры пасьвішчы жывёлы. Вось чаму ва ўмовах Беларусі найбольш прыемнай трэба лічыць замацоўку сыпучых пяскоў дрэўнай расьліннасьцю.

3. Дрэўная расьліннасьць, як больш даўгавечная, маючая моцныя карэньні і шмат лісьця, можа добра забараняць глебу ад ветру сьпекі і пераносу пяску ветрам. Але ня ўсякая дрэўная расьліна можа расьці на сыпучых пясках, бо вядома, што пяскі, асабліва сыпучыя, вельмі бедныя: яны ня могуць даць расьлінам патрэбных харчоў. Але ёсьць дрэвы ці хмызьнякі, якія ўжываюцца на самых бедных сыпучых пясках. Многагадовыя досьледы паказалі, што найлепш ужываецца і найлепш затрымлівае пяскі лаза, так званая „шалюга“—чырвоная і жоўтая—(Salix acutifolia, Salix amigdalina і Salix dafnoides). Гэтыя віды лазы не даюць высокіх дрэў: яны хмызьняковыя.

Чырвоная шалюга—Salix acutifolia—мае чырвоны колер на ўсіх галінах, які крыху затушаваны шызым васковым налётам, нібы галінкі крыху заплесьнявелі. Salix amigdalina—мае зялёныя галіны з боку

чырвонаватыя, але лепш пазнаецца па кветцы, якая мае 3 тычынкі. Salix dafnoides—мае жоўты колер на галінках з шызым налётам. Але гэта яшчэ зусім слабыя адзнакі, каб распазнаваць, патрэбныя нам віды лазы. Найлепшай затрымкай будзе, калі мы лазу будзем браць дзеля разводу з замацованых плошчаў, тады не памылімся. Абавязкова ўсе нарыхтоўкі па загатоўцы шалюгі рабіць пад наглядам і кіраўніцтвам лясных працаўнікоў.

Самым лепшым матар'ялам дзеля замацоўкі сыпучых пяскоў лічацца чаранкі шалюгі, якія наразаюцца з здаровых кустоў ў 2-3-х гадовым ўзросьце, альбо нават і аднагадовыя таўшчэйшыя галінкі. Чаранкі наразаюцца даўжынёю ў 1 арш., а часам і даўжэйшыя. Па нарэзцы іх зьвязваюць у пукі і адвозяць на месца пасадкі. Загатоўку чаранкоў робяць тады, калі лісьцьцё ўжо паападала—гэта найлепшая адзнака, што пара садзіць шалюгу.


Саджальны меч.


Саджальны кол.

Найпрасьцейшы і танейшы спосаб пасадкі шалюгі на сыпучых пясках—у плужныя барозны. Самая пасадка робіцца гэтак: гоніцца баразна папярок пануючаму ветру (у нас з поўначы на поўдня), у гэту баразну на дно яе ўкладаюць чаранкі і зваротным ходам плуга іх засыпаюць. Пры гэтым трэба заўважваць, каб разгаціны (дадатковыя галінкі) ад галоўнай галіны чаранка ляжалі канцамі ў напрамку зваротнага ходу плуга, тады яны ня псуюцца і лепш засыпаюцца зямлёю. Барозны ганяюцца розна: калі пяскі вельмі пагражаюць і іх трэба стрымаць хутчэй, тады барозны ганяюць адна ад другой цераз 1 арш., альбо побач засаджваюць шалюгай 2-3 баразны, потым перарыў 2-3 арш. і г. д. Такім парадкам замацоўваюць усю плошчу. Калі няма ўжо такой пагрозы, тады ганяюць па 1 баразьне цераз 1 саж. Тут праца ідзе хутчэй і менш патрабуецца пасадкавага матар'ялу.

Калі напаверхні сыпучых пяскоў шмат узгоркаў, тады пасадка пад плуг ня так прыемна: цяжка каню і нязручна aратаму. У такіх выпадках пасадку чаранкоў шалюгі робяць пад кол, альбо саджальны меч. Чаранкі бяруцца драбнейшыя, прыблізна $^1/_2$—$^3/_4$ арш. даўжыні (з косым зрэзам) і высаджваюцца радамі ад 1 да 3 арш. рад ад раду і 1-$1^1/_2$ арш. ямка ад ямкі ў раду. Саджальным колам, альбо мячом робяць ямку—шчэлку глыбінёю каля 2 вяршкоў і ў яе ўтыкаюць тоўстым канцом чаранок, так, каб толькі крыху была відаць яго верхавінка; адступіўшы ад яго 2 вершкі ўтыкаюць кол на тую самую глыбіню і зашчамляюць чаранок у ямцы. Потым вымаюць кол ці меч і абтоптваюць навакола пасаджанага чаранка. Каб пераканацца, што чаранок добра зашчэмляны, трэба лёгка пацягнуць яго за верхавінку, калі ня вымаецца, то замацованы добра.

Калі замацоўваюцца значныя плошчы сыпучых пяскоў і гэта праца вядзецца з году ў год, тады трэба мець так званую „шалюговую

плантацыю“—выхавальнік, каб штогод карыстацца сваім пасадачным матар‘ялам. Дзеля гэтага выбіраецца плошча з больш пухкім і вільготным пяском, на якой густа, у кожную баразну, садзяцца здаровыя разгацістыя чаранкі. Яны хутка разрастуцца і дадуць у бліжэйшыя гады пасадачны матар‘ял.

Паўзадзярнелыя пяскі замацоўкі шалюгой, на той частцы, якая яшчэ нямае ніякой расьліннасьці.

Задзярнелыя пяскі не патрабуюць шалюгаваньня: на іх можна адразу разводзіць лес. На замацованых сыпучых і паўзадзярнелых пяскох калі на іх паверху ўжо больш менш значна ўтварыцца дзярніна, трэба неадкладна прыступаць да разьвядзеньня лесу. Тут трэба адзначыць, што хаця пяскі стрымаліся, задзярнелі, але ўсё-ж такі глеба тут вельмі бедная. Маючы гэта на ўвазе, мы пры разьвядзеньні на іх лесу павінны выбіраць тыя лясныя парады, якія напэўна міраццa і растуць на гэткай глебе. На першым месцы тут будзе стаяць паважаная намі хвойка. Разводзіць яе трэба пасадкай 1-2 гадавых сеянцаў, бо пасеў хваёвага насеньня на такой глебе, як паказваюць досьледы, рэдка дае добрыя вынікі. Сеянцы можна атрымаць з выхавальнікаў—лясьніцтваў дарэмна. Тут трэба адзначыць, што, калі кульцівіруецца значная плошча хвойкі, то неабходна па краёх, асабліва пры шляхах на 3—5 саж. засяваць бярозай, каб мець у будучым забясьпеку ад пажараў. Вельмі добра, калі такія палосы мець на перасечку ўздоўж і папярок засаджанай хвойкай плошчы; яны некалі захаваюць ад агульнага пажару маладняк, а таксама дадуць незадоўга і драўніну.

**Т. Гаўрыловіч.**

Нёманскае Л-ва.



Замацоўка пяскоў

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Тарпяныя ўгнаеньні.

Беларусь мае звыш двух мільёнаў гэктараў балот. З гэтых балот толькі частка распрацоўваецца на паліва, рэшта-ж іх застаюцца зусім нескарыстанымі *).

Галоўная прычына малога карыстаньня торпу ляжыць у адсутнасьці знаёмства большасьці сялян-земляробаў з карыснымі ўласьцівасьцямі і якасьцямі торпу. Торп з вялікім посьпехам можа быць скарыстованы ў сельскай гаспадарцы для ўгнаеньня; гною-ж у нас, як вядома, пахаць атрымлівае заўсёды недастаткова.

Торп можа ісьці на падсьцілку жывёле замест саломы. Тарпяная падсьцілка лепш за саломеную, акрамя гэтага яна дае эканомію ў корме таму, што салома можа быць зкормлена жывёле (кармоў-жа ў нас не хапае).

*Для Беларусі ўжываньне тарпянога ўгнаеньня ў сялянскай гаспадарцы мае вялікае значэньне.* Глебы Беларусі ці вельмі цяжкія, халодныя-гліністыя, ці вельмі лёгкія—пясчаныя; часта мы сустракаем лясныя (падзолістыя) глебы. Усе глебы, на якіх прыходзіцца весьці палявую гаспадарку селяніну, патрабуюць моцнага ўгнаеньня гноем, таму што яны вельмі бедны арганічнай (згараемай) матэрыяй, а складаюцца ў большай частцы з гліны, пяску, г. зн. рэштаў мінэралаў, з якіх яны створаны.

Торп-жа амаль цалкам складаецца з арганічнай (згараемай) матэрыі, і скарыстаньне яго, як угнаеньня, прынясе вялікую карысьць, асабліва пры недахопе гною.

Акрамя арганічнай (згараемай матэрыі) торп мае ў сябе попел, у якім знаходзяцца спажыўныя для расьлін матэрыі. У торпу лугавых (нізінных) балот маецца арганічнай матэрыі каля 90% і попелу каля 10%. Інакш кажучы, у кожных 100 пуд. лугавога торпу маецца каля 90 пуд. арганічнай матэрыі і каля 10 пуд. попелу. У махавым торпе (з махавых балот) попелу маецца менш—на 100 п. торпу ад 2-х да 6-ці пудоў.

Акрамя таго, у арганічнай матэрыі торпу ёсьць *азот*, неабходны харч для расьлін, які мы даём звычайна ў гнаі. Азоту на 100 п. торпу прыходзіцца ад 2-х да 4-х пудоў.

Вось якія карысныя ўласьцівасьці торпу.

Але ў большасьці выпадкаў спажыўныя матэрыі, якія знаходзяцца ў торпу, дрэнна ўжываюцца расьлінамі. Каб зьнішчыць гэтыя недахопы, трэба торп праветрываць, альбо кампаставаць, г. зн. зьмешваць з рознымі адкідамі хатняй гаспадаркі. Адкідамі, якія могуць быць скарыстаны для капмосту, зьяўляюцца: сьмяцьцё, памыі, расьлінны і дрэўны попел, гной птушак і дробнай жывёлы, вапна і нават фасфарытная мука.

Такім чынам, кампост зьяўляецца як-бы фабрыкай, якая перапрацоўвае адкіды гаспадаркі ў прадукты вялікай каштоўнасьці, ва ўгнаеньне, якое замяняе гной; кампост захоўвае матэрыі для расьлін,

*) Гл. „Плуг“ № 5, май 1928 г.

якія знаходзяцца ў адкідах гаспадаркі і якія часта выкідаюцца на дарогі, ці дзе-небудзь на двары ў сядзібе і толькі пагоршваюць ўмовы жыцьця сялян.

*Маючы-ж торп і падрыхтаваўшы з яго кампост, кожны гаспадар, зусім ня трацячы грошай, можа атрымаць угнаеньне, якое з посьпехам заменіць гной.*

Трэба толькі памятаць, што сьвежы торп, толькі што вынуты з балота, *нягодны для ўгнаеньня.* Каб ён быў карысным, яго трэба абавязкова праветрыць.

Ужываецца торп, як угнаеньне, у той-жа колькасьці, што і гной. Акрамя торпу—гэтай чорнай, зямлістай масы балот,—для падсьцілкі можна з посьпехам ужываць верхні, сьвежы, валакністы слой мохавых балот, так званы журавіны (белы) мох.

Калі параўнаць звычайную саломеную падсьцілку для жывёлы з мохавай (з белага моху), дык апошняя аказваецца многа лепшай і вось чаму:

1) Тарпяная ці мохавая падсьцілка ўпітвае ў сябе вадкасьці ў 3-4 разы больш, чым салома. У хлявох, дзе карыстаюцца подсьцілам з моху, заўсёды суха. Гнаёвая жыжка, якая мае многа спажыўных матэрый для расьлін, не сьцякае з хлява, не прападае дарма, а паступае ў гной і робіць яго больш каштоўным.

2) Тарпяная падсьцілка зьнішчае дрэнны пах у хлявох, жывёла адчувае сябе ляпей і не пакутвае ад хваробы вачэй і запаленьня органаў.

3) Тарпяная падсьцілка супярэчыць разьвіцьцю зароднікаў хвароб (мікробаў). Цяпер добра вядома, што жывёла, якая стаіць на мохавай падсьцілцы, менш хварэе ад заразьлівых хвароб, чым жывёла, якая стаіць на саломенай.

4) Тарпяная падсьцілка дае добры, каштоўны і дробны гной, які лягчэй заворваецца і мае больш харчу для расьлін, чым саломены.

5) Тарпяная падсьцілка менш небясьпечна для пажараў, чым саломеная; торп запальваецца цяжэй, чым салома.

Тарпяны гной паляпшае глебы, якім ім угнойваюцца. Гліністыя глебы робіць больш пульхнымі і цёплымі, а пясчаныя зьвязвае. Тарпяны гной утрымлівае больш азоту, чым саломены і мацней павышае ўраджаі збожжа і другіх палёвых расьлін, чым звычайны гной.

Такім чынам, ня зусім цяпер правільна прыказка—„мала гною—мала хлеба і мала жывёлы". Калі мала гною, дык яго можна павялічыць ужываньнем торпу на подсьціл.

*Падрыхтаваньне тарпяных угнаеньняў.* Праца па падрыхтаваньню тарпянога ўгнаеньня—тарпянога кампосту не прадстаўляе труднасьцяў і даступна кожнаму, калі ёсьць блізка торп. Зьяўляецца яна ў наступным: на выбранай пляцоўцы для залажэньня кампостнай кучы, прывезены воз торпу зьмешваецца з адкідамі гаспадарцы ці з фасфарытнаю мукою (на кожныя 80 п. торп., 1 п. фасфарыту) і складаецца ў кучу каля 1 саж. шырыні; даўжыня кучы залежыць ад таго, колькі хочуць загатовіць ўгнаеньня: чым больш трэба ўгнаеньня, тым даўжэй робіцца куча. Верх кучы робіцца ў выглядзе даху з пакатымі бакамі; вышыня кучы звычайна 2-2$^{1}/_{2}$ арш. Матар'ял, які ідзе ў кучу—торп, адкіды гаспадаркі, з пачатку зьмяльчаюць.

Пляцоўка, на якой закладваецца кампост, выбіраецца блізка каля ўгнойваемага вучастку, альбо на сядзібе—блізка ад месца атрыманьня

адкідаў. Гэту пляцоўку ўтрамбоўваюць глінай і акопваюць няглыбока канаўкай, каб дажджавая вада не вымывала з кампосту спажыўных матэрый.

Догляд за кампоснай кучай зьяўляецца толькі ў тым, што яе часамі перакопваюць (пералапачваюць) і чым часьцей, тым лепш. Кампост лічыцца гатовым, калі ўся маса, з якой ён падрыхтованы, зробіцца аднаўзорнай і пульхнай.

У залежнасьці ад таго, з чаго падрыхтоўваецца кампост, час яго пасьпяваньня хістаецца ад 2 мес. да 1 году. Больш павольна пасьпявае мохавы торп.

Для падрыхтаваньня тарпяных кампосных угнаеньняў трэба захоўваць наступныя правілы:

1) Закладваць тарпяныя кампосныя кучы ляпей за ўсё рана вясною, а вывозіць торп к месцу закладкі кампосту ўзімку.

2) Кампост з фасфарытам і вапнай рыхтуюць з мохавага торпу, бо з лугавым торпам, які мае звычайна дастаткова вапны, няма сэнсу кампаставаць. Фасфарыту кладуць 1 пуд на 80 п. торпу, вапны-ж ад 1 да 2 п. на 40 п. торпу.

Лугавы торп уносяць як арганічную (згараемую) матэрыю, багаты азотам, заражаюць яго невялікай кольскасьцю гною і кампастуюць з попелам на 40 п. торпу 1 п. попелу.

3) Загатаўляецца кампоснае ўгнаеньне звычайна разы ў $1^1/_2$ больш, чым трэба, каб пасьля ўсушкі яго і стратах пры перавозцы на поле хапіла ўгноіць вызначаную плошчу.

4) Тарпяныя ўгнаеньні вывозяцца ў поле ў той-жа час, калі звычайна вывозяць і гной.

Пры ўжываньні тарпяной падсьлідкі трэба кіравацца наступным:

1) Загатоўленую тарпяную падсьцілку трэба засьцерагчы ад дажджу, таму што чым яна сушэй, тым больш гнаёвай жыжкі ў хляве яна паглыне і тым вышэй будзе яе каштоўнасьць.

2) Пры стойлавым утрыманьні жывёлы, падлога ў хляве засыпаецца слоем падсьцілкі ў $2\text{-}2^1/_2$ вярш. (10-12 сант.) Вільготныя часткі падсьцілкі, а таксама цьвёрдае зьвяржэньне жывёлы штодзённае ўдаляюць і замяняюць сьвежымі. Поўнасьцю падсьцілка зьмяняецца не часьцей 1-га разу ў тыдзень. На адну галаву кладзецца ў суткі наступная колькасьць падсьцілкі:

| | | |
|---|---|---|
| Карове | 3,25 — 5 клгр. | (8—12 фунта) |
| Каню | 3 — 5 „ | (8—12 „ ) |
| Сьвіньні | 1,5 — 3 „ | (4— 7 „ ) |
| Авечцы | 1,25 — 2 „ | (3— 5 „ ) |

3) Там, дзе жывёла стаіць бяз прывязі і гной з-пад яе ўбіраецца раз ці два ў год, тарпяную падсьцілку кладуць пластом у 15-20 сант. і заманяюць сьвежай тады, калі верхні пласт яе робіцца мокрым. Але ўсё-ж ня трэба дапушчаць, каб жывёла забруджвалася ад мокрай падсьцілкі.

Мы бачым наколькі проста магчыма павялічыць колькасьць угнаеньняў гаспадарцы, скарыстаўшы для гэтай мэты торп.

*Добрыя ўраджаі будуць на ўгноенай зямлі, а самыя даступныя, а разам з тым добрае і таннае ўгнаеньне—гэта тарпяное.*

**Х. Бахцеяў.**

# С.-Г. ХРОНІКА

## Зьезды сялян-дасьледчыкаў.

**Пры Горы-Горацкай Дасьледчай Станцыі, 8-9 ліпеня адбыўся зьезд сялян-дасьледчыкаў.**

На зьезд зьявілася 130 асоб, якія прыехалі з вынікамі сваёй працы і з мэтай навучыцца на палёх Дасьледчае Станцыі, як надалей будаваць сельскую гаспадарку.

У сваёй прамове прафэсар Рэнард заклікаў сялян-дасьледчыкаў і грамадзкую аграномію згуртавацца вакол дасьледчых устаноў, дзеля хутчэйшае пабудовы соцыялізму ў сельскай гаспадарцы.

На зьезьдзе былі заслуханы даклады Цэнтральнага Бюро сялян-дасьледчыкаў пры Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Леніна і вынікі працы сялян-дасьледчыкаў пры Горацкай Дасьледчай Станцыі.

Пасьля дакладу сяляне-дасьледчыкі ў сваіх прамовах падзяліліся вынікамі сваіх досьледаў.

Сяляне-дасьледчыкі з вялікай ахвотай праглядзелі ўсе ўстановы Дасьледчае Станцыі. Уражаньне, якое атрымалі сяляне на дасьледчых установах, зьяўляцца вялікім падсобкам у справе падняцьця сельскае гаспадаркі.

**Што цікавіла сялян-дасьледчыкаў.** Тыя вынікі, якія сяляне ўбачылі на палёх Дасьледчае Станцыі, садзе, гародзе, у хляве і лябараторыях, зьявіліся вялікай тэмай для гутаркі сярод сялян-дасьледчыкаў. Кожны з сялян выказваў свае думкі, дзяліўся вопытам і вызначаў шляхі, па якіх павінна пайсьці разьвіцьцё сельскае гаспадаркі.

**Што дае дасьледчая справа.** Сялянства ўпэўнілася, што ўжываньне ўгнаеньняў, правільная апрацоўка глебы, сартавыя гатункі павышаюць ураджай звыш, чым у два разы; гэта сялянства бачыла на дыяграмах і ў натуры на палёх Дасьледчае Станцыі.

**Што сказала канфэрэнцыя сялян-дасьледчыкаў аб дасьледчай справе.** Вітаючы тую сувязь, якую Дасьледчая Станцыя пачынае весьці з Інстытутам сялян-дасьледчыкаў праз скліканьне канфэрэнцый пры Дасьледчай Станцыі, кіраваньне іх працай на мясцох і г. д. канфэрэнцыя адзначае, што дасьледчая праца Інстытуту сялян-дасьледчыкаў недастаткова ўвязана з працай зем'органаў і нізавымі аграпрацаўнікамі.

Вынікі працы, як Станцыі, так і паасобных сялян-дасьледчыкаў недастаткова популярызуюцца станцыяй праз друк, што зьменшае ўжываньне вынікаў навукі ў сялянскай гаспадарцы.

У далейшым пажадана больш шырокая сетка досьледаў у кожным раёне, пажадана каб абслугоўваньне сялян-дасьледчыкаў было праз спэцыяльны штат аграномаў, практыкантаў, з такім разрахункам, каб кожны раён меў асобнага практыканта ў летні пэрыяд.

Органам Наркамзему і Дасьледчаму Інстытуту неабходна забясьпечыць Станцыю матар'яльнымі сродкамі для пашырэньня і паглыбленьня працы станцыі, як сярод сялян, так і нізавой сеткі аграпрацаўнікоў.

Аграном К. **Кіпрыянец.**

---

15-17 ліпеня пры Н. Д. І. імя У. І. Леніна ў Менску адбыўся зьезд сялян-дасьледчыкаў Менскай акругі.

Наколькі сялянства цікавіцца дасьледчай справай, наколькі зразумела карысьць вывучэньня як лепш наладзіць гаспадарку, прымяняючы вынікі дасьледчых устаноў— можна бачыць з таго, што ня гледзячы на пачатак сенакосу, калі кожная хвіліна дорага ў гаспадарцы, зьехалася 60 сялян.

На конфэрэнцыі сялян-дасьледчыкаў з прамовамі выступалі Нарком Земляробства т. Прышчэпаў, Дырэктар Н. Д. І. т. Гарэцкі, сябры бюро сялян-дасьледчыкаў, аграномы з месц, амаль усе сяляне і інш. удзельнікі зьезду.

Т. Прышчэпаў азнаёміў дасьледчыкаў з зямельнай палітыкай улады і з вызначанымі шляхамі будаўніцтва сельскай гаспадаркі ў далейшым.

Сялянамі-дасьледчыкамі зроблены экскурсіі на Менскую балотную дасьледчую станцыю, на палёвую дасьледчую станцыю і наведваньне лябараторыі Н. Д. І. Уражаньне ад росту пасеваў на балотнай станцыі надта зацікавіла сялянства. „Ня верыцца— казалі яны,—што тут калісь-та было балота, такіх буйных пасеваў не часта ўбачыш і на гароднай зямлі".

У сваіх прамовах сяляне адзначылі, што і іх праца дае цяпер большыя вынікі. Калі раней ад суседзяй можна было часта чуць насьмеханьні, асабліва пры якім небудзь няўдачным досьледзе, дык цяпер гэта зьнішчаецца. Наглядаючы на нашы вынікі,

пачалі больш сялян ужываць і лепшую апрацоўку, мінэральнае ўгнаеньне, сеяць караньплоды і г. д.

У далейшым дасьледчая праца павінна пашырацца сярод большага ліку сялян, адначалі сяляне-дасьледчыкі. Тады карысьць ад ужываньня, напрыклад, ад штучнага насеньня будзе куды большая. У гэтай справе зямельным органам трэба прыняць належныя меры, дапамагаць як забесьпячэньнем насеньня, угнаеньнем, гэтак і належным абслугоўваньнем агранамічным пэрсоналам.

---

## Аб садовым пасадачным матар'яле ў Полацкай акрузе.

У садовым выхавальніку Полацкай акругі маецца наступная колькасьць прышчэпаў для разьмяркаваньня ўвосень гэтага году сярод насельніцтва:

### Назва гатункаў яблынь.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Антонаўка | 10600 | 8. Суйсьлёпскае | 77 |
| 2. Бабушкіна | 2057 | 9. Карычневае паласатае | 107 |
| 3. Кальвіль Дымчаты | 545 | 10. Паліў белы | 83 |
| 4. Чарнагауз | 323 | 11 Літоўка цукровая | 147 |
| 5. Штрэйфлінг | 2052 | 12. Розных іншых гатункаў | 459 |
| 6. Ананас Бержанецкі | 577 | Разам | 17092 |
| 7. Шэрынка | 77 | | |

Прышчэпы 2—3-х гадовага ўзросту, з каронамі.

Груш з каронамі—1074 штукі (ільлінка, бесьсямянка, танкаветка, мядведаўка, бэразімовая, вінёўка).

У выхавальніку Я. Мароза маецца ўсяго 1500 штук яблынь, з якіх большая колькасьць антонаўка, штрэйфлінг і бабушкіна.

Адрас акруговага садовага выхавальніку: г. Полацк, вул. Фрунзе.

Адрас выхавальніку Мароза: Бачэйкава, Віцебскай акругі, Фатынь Я. К. Мароз.

## Распаўсюджваньне гатунковага азімага збожжа на Беларусі.

У гэтым годзе Аграадзелам НКЗ ў Курскай губ., закуплена на 200 цэнтнераў (12200 пуд.) пэткускага жыта якое 15-16 жніўня павінна быць атрымана і выгружана ў вызначаных пунктах. Купленае жыта разьмеркавана: 1500 цэнтнераў для каапэрацыі і 500 цэнтнераў для дзяржаўнай сем. культуры.

Усё жыта прызначана для палёў размножваньня, з мэтай што ў наступным годзе, па атрыманьню ўраджаю, яно будзе распаўсюджана сярод сялянства.

**Пшаніцы азімай** чыстага гатунковага (элітнага) матар'ялу атрымана ад Сэлекцыйнай станцыі Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі 550 кілёграм для дасьледчых станцыі Беларусі.

**Белсельсаюзам атрымана** чыста-гатунковага насеньня пяткускага жыта 1507 цэнтнераў (97927 пуд.); разьмяркоўваецца гэта жыта выключна па калгасах. Апрача таго па вызначэньню НКЗ забраніравана саюзным Наркамгандлем каля 16000 цэнтн. палепшанага насеньня жыта (97600 пуд.), якое пастуціць Белсельсаюзу для разьмеркаваньня па заяўкам акрсельсаюзаў.

Вікі азімай заказана Белсельсаюзам і чакаецца к атрыманьню каля 500 пуд.

**Для забясьпечаньня насельніцтва машынамі і прыладамі** да асеньняй пасяўной кампаніі, акрамя Цэнтраземскладу (колькасьць пералічана ў артыкулу т. Еўдакімава, стар. 6), разьмяркована і маецца на складзе Белсельсаюзу для прадажы наступная колькасьць машын:

| | Прадана | Маецца на складзе |
|---|---|---|
| Плугоў | 23000 | 12000 |
| Барон | 1782 | 700 |
| Сеялак | 3260 | 40 |

Забясьпечанасьць штучным угнаеньнямі гэткая:
Маецца на складах і разьмяркована.

| | Белсельсаюзам | Цэнтраземскладам | Усяго |
|---|---|---|---|
| Супэрфасфат | —5000 тон (305000 п.) | 1000 тон (61000 п.) | 6000 тон (366000 п.). |
| Фасфарытнай мукі | —1400 „ ( 85400 п.) | 800 „ (48800 п.) | 2200 „ (134200 п.). |

---

## Пытаньні і адказы па зямельных справах

Пытаньне 109. Ці патрабуецца для ўваходу асобы ў склад двара з прычыны шлюбу дазвол членаў гэтага двара (Старобінская райземкамісія).

Адказ. Калі асоба праз шлюб з членам двара ўваходзіць у яго склад, то для гэтага не патрэбен дазвол іншых членаў таго-ж двара.

Пытаньне 110. Ці можна высяліць з двара яго члена і прысудзіць яму толькі маёмасьць без зямлі, калі ён самавольна захоплівае зямлю і маёмасьць двара.

Адказ. Зямельная камісія ня можа пазбавіць члена двара права на зямлю апошняга і выдзеліць гэтаму члену без яго згоды толькі маёмасьць. За самавольны захоп зямлі і маёмасьці двара член яго адказвае ў крымінальным парадку.

Пытаньне 111. Ці можна да сканчэньня трохгадовага тэрміну залічыць у запасны фонд зямлю двара, які перасіліўся ў Сібір, не зарэгістраваўшы ў належным парадку дагавору аб аддачы зямлі ў арэнду.

Адказ. Незарэгістраваньне перасяленцам дагавору аб аддачы зямлі ў арэнду цягне за сабою паводле арт. 58 зям. код. адабраньне гэтай зямлі ад удзельнікаў зьдзелкі зусім ці на пэўны тэрмін.

Пытаньне 112. Каму падсудны іск аб незямельнай маёмасьці двара, якая пасьля падзелу яго засталася ў супольным карыстаньні новых двароў. (Гомельская акрземкамісія).

Адказ. Спрэчкі пра супольную маёмасьць працоўных земляробскіх гаспадарак паводле арт. 79 зям. код. павінны вырашацца раённаю зямельнаю камісіяй.

Пытаньне 113. Дзе павінна лічыцца зямля членаў двара, якія перайшлі ў арцель. Двор, у якім застаўся адзін член, мае зямлі менш максімальнай нормы. (Уварвіцкая райземкамісія).

Адказ. На грунце арт. 124 зям. код. за паасобнымі дварамі замацована ў сталае працоўнае карыстаньне зямля, якая знаходзіцца ў іх законамерным карыстаньні ў межах вызначаных норм. Таму выхад членаў двара з яго складу, за выключэньнем аднаго, ня можа адбіцца на землякарыстаньні двара ў асобе застаўшагася члена.

Пытаньне 114. Ці можа раённая зямельная камісія здавальняць іскі аб падзеле маёмасьці і выдзеле зямлі толькі пад сядзібу. (Заслаўская райземкамісія).

Адказ. У тым выпадку, каліісьцец з прычыны свайго пераходу да кустарнага промыслу адмаўляецца ад атрыманьня палявой зямлі двара і просіць прысудзіць яму толькі сядзібу і выплату за маёмасьць, такі іск можа быць здаволены з захаваньнем правілаў сельскага будаўніцтва.

## Паштовая скрынка.

**Краязнаўчаму гуртку пры школе сямёхгадоўцы м-ка Чашнікі**—аб артыкуле П. Семянкова „Гаспадарка Закрэнэўскага“ (артыкул перасланы Інбелкультам для скарыстаньня ў часопісі „Плуг“).

Шыбко Т. Я.—„Як мы паляпшаем сваю гаспадарку“;

Фрыне Дарожка—„Гаспадарка селяніна вёскі Бор-т. Немогая“;

Ляпёшку П.—„Гаспадарка сялян вёскі Уладзіміраўка“;

Шасьцітка Г.– пра артыкул апісаньня гаспадаркі Слабковіча А. Н. пад назвай „Калдун“.

Савіцкаму—„Гаспадарка, якіх мала“ пра гаспадарку Місоўскага В.;

Сел. Сялюкіну—„Чатырох-палевая гаспадарка селяніна А. Шадурскага“ і іншым падпісчыкам рэдакцыя прапануе зрабіць апісаньне памянёных альбо іншых культурных гаспадарак, а таксама і сваіх, *прыстасаваўшы згодна праграмы, да „Усесаюзнага конкурсу на лепшы ўраджай“*. Праграма зьмешчана ў газэце „Беларуская Вёска“ за 14 чэрвеня, а тлумачэньні і ўмовы конкурсу ў часопісі „Плуг“ № 7 у артыкуле С. Хоміча, старонкі 2-5.

**Санарым** Пытаньне аб мажлівасьці надрукаваньня брашуры „Пособие по ведению хозяйства в лесах местного значения“ вырашаецца. Аб умовах, калі брашуру будзе магчымым надрукаваць, рэдакцыя паведаміць лістом.

**Аграному Уліціну** Артыкулы „Ўвагі жывёлаводзтву“ атрыманы, скарыстаем.

**І. А. Вобаду**. Артыкул ваш „Паляпшайце гаспадарку“ друкавацца ня будзе, бо ў ім нічога практычнага няма, адны агульныя разважаньні ды і яны ня правільны. Пішэце, што культурнага, лепшага ўведзена ў вашай і суседніх гаспадарках і якім чынам гэта дасягнута, колькі закантрактавана і якіх відаў пасеву, якія с.-г. аб'яднаньні арганізаваны ці арганізуюцца, як яны працуюць. Вось гэтыя весткі было-б цікава атрымаць ад вас.

**Выданьне Наркомзему.** Адк. рэд. Зьм. Прышчэпаў.

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*

640

ЦАНА 20 КАП.



## АБВЕСТКА

Выдавецтва НКЗ паведамляе аграномаў, зямельныя органы, кіраўнікоў школ, і інш., што яно складае патрэбныя с.-г. бібліатэчкі для прэміраваньня сялян за лепшыя вынікі ў дзень „Сьвята ўраджаю“, а таксама для папаўненьня бібліатэк аграпунктаў, хат-чытальняў, вясковых школ і школ сямігодак. Выдавецтва НКЗ гэтыя бібліатэкі складае як з сваіх, так і з чужых выданьняў (Дзяржбелвыдавецтва, ГИЗ і інш.) і прадае з вялікім процантам скідкі (ад 20 да 50 прац.).

**Друкуецца і скора паступіць у прадажу кніжка „На дапамогу будаўніцтву каляктываў“ аграномаў Цынкова і Пліса.**